ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ
ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 17 (2367) 28 красавіка 1994 г. Выдаецца з 1955 г.
Цана 100 рублёў.

# "МЫ — ІНАКШЫЯ. І ВАЙНА ДЛЯ НАС БЫЛА ІНАКШАЙ"

**ТАКІ ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ МАЕ Ніл ГІЛЕВІЧ, ВЯДОМЫ ПІСЬМЕННІК, ГРАМАДСКІ ДЗЕЯЧ, ПАЛІТЫК. ГУТАРКУ З ІМ ВЯДЗЕ КАРЭСПАНДЭНТ "ГОЛАСУ РАДЗІМЫ" Галіна УЛІЦЁНАК.**

*-- Адна з адметнасцяў бягучага года -- спаўняецца 50 гадоў, як Беларусь была вызвалена ад немцаў у другой сусветнай вайне. Паўстагоддзя. Паспела нарадзіцца і падысці да парога старасці цэлае пакаленне. Большая частка сучаснага нашага грамадства наогул пра тую вайну ведае толькі з кніг, фільмаў, музейных экспазіцый. Як вам бачыцца, ці застаецца гэтае свята вызвалення па-ранейшаму, кажучы словамі вядомай добрай песні, "со слезами на глазах"?*

*Ці не высыхаюць гэтыя слёзы з цягам часу? Сёння нярэдка можна пачуць, што не варта наладжваць пышныя ўрачыстасці, на якія спатрэбіцца вельмі многа грошай, маўляў, лепей тыя грошы патраціць на лекі, матэрыяльную дапамогу тым жа ветэранам. Ці згодны вы з гэтым?*

-- Усякі боль у душы чалавечай з цягам часу патроху сунімаецца. Сціраецца паступова і вастрыня нашай памяці аб апошняй вайне. Падзеі, клопаты, згрызоты пaverваеннага часу -- а гэта ж цэлага паўстагоддзя! -- зрабілі сваё. Нават у тых, што прайшлі праз яе пекла самі, -- душэўныя раны азываюцца ўсё радзей. А для ўсіх народжаных пасля вайны -- гэта ўжо наогул старонкі гісторыі, якімі трэба даражыць, як і ўсякай іншай легендарнай спадчынай народа. Асаблівасць іх у тым, што ніколі такой страшнай вайны не было і што памяць пра гэту, у адрозненне ад усіх ранейшых войнаў, нашмат даўжэйшая і балючэйшая...

Ці трэба адзначаць 50-годдзе Вызвалення Беларусі? Для мяне такога пытання не існуе. Успамінаю дзень прыходу "нашых" ("Нашы ідуць!") як адзін з самых шчаслівых дзён майго жыцця. Што было напярэдадні і ў той дзень перажыта -- гэта ні з чым непараўнальна. Хіба што з успрыняццем весткі аб памілаванні пасля прысуду да смяротнага пакарання. Калі б не вызваленне -- надзей выжыць скора не засталося б зусім. І для кожнага з нас, беларусаў, паасобку, і для ўсяго нашага народа агулам. Апрача таго, што ішла вайна Айчынная, у якой нашы людзі штодзённа гінулі ад рук захопнікаў-акупантаў, -- усё шырэй разгортвалася на нашай зямлі вайна грамадзянская -- беларусаў з беларусамі. На радасць ворагам Бацькаўшчыны, самі сябе знішчаць узяліся. З-за палітычных і класавых догмаў. Дык як жа не святкаваць Дзень Вызвалення -- Дзень выратавання ад пагібелі?

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**



**26-га красавіка споўнілася восем гадоў з дня катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. Прапануемыя здымкі (заканчэнне фотарэпартажу на 4-й стар.) узнаўляюць моманты тых трагічных дзён.**

**...Са слязамі на вачах і болем у сэрцы пакідалі людзі наседжаныя месцы. Гэта жанчына пражыла ў роднай вёсцы больш за 70 гадоў. Чарнобыль забраў у яе ўсё: хату, нажытае за дзесяцігоддзі дабро, спакойную старасць, здароўе і надзею, што некалі вернецца на зямлю сваіх продкаў.**

# ПАСХАЛЬНАЕ ПАСЛАННЕ

## МІТРАПАЛІТА МІНСКАГА І СЛУЦКАГА ФІЛАРЭТА, ПАТРЫЯРШАГА ЭКЗАРХА ЎСЯЕ БЕЛАРУСІ

**Христос воскресе, смерть поправый, и мертвыя воздвигнувый, людие, веселитеся.**
*(Пасхальны канон, спеў 8).*

**УЗЛЮБЛЕНЫЯ Ў ГОСПАДЗЕ ПРААСВЯШЧЭННЫЯ АРХІПАСТЫРЫ, ПАСТЫРЫ, БАГАЛЮБНЫЯ ІНАКІ І ІНАКІНІ І ЎСЕ ВЕРНЫЯ ЧАДЫ БЕЛАРУСКАЙ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЫ!**

З ВЯЛІКАЮ РАДАСЦЮ ВІНШУЮ ВАС
СА СВЯТАМ СВЯТАЎ –
ДНЁМ СВЯТОЙ ПАСХІ!

У гэтую дзіўную ноч мы зноў успамінаем аб падзеі, якая па сваім значэнні непараўнальная ні з чым. Роўных ёй няма ў гісторыі чалавечага роду, бо яна з'яўляецца цэнтрам гісторыі, яе сувязным звяном, без якога ўсё, што адбываецца, губляе сэнс. Гэтая падзея -- Уваскрасенне Госпада нашага і Збавіцеля Іісуса Хрыста. Святкуючы яго сёння, мы разам з Царквою пяем: **"Христос воскресе из мертвых, смертию смерть поправ и сущим во гробех живот даровав!"**.

Якая радасць павінна быць у нашых сэрцах пры ўспаміне аб Уваскрасенні Хрыстовым! Гэта -- наша агульнае свята, наша агульная ўрачыстасць. Бо ўсіх нас раней ці пазней чакае смерць... і вось, аказваецца, што яе няма, што яна пераможана. І мы можам разам з прарокам Асіяй усклікнуць: **"Смерть! где твое жало! ад! где твоя победа!"** *(13, 14)*. Ад гэтых слоў сэрцы ўсіх напаўняюцца незямной радасцю, бо Уваскрасеннем Хрыстовым існінна пераадолена цемра, маркота і безнадзейнасць смерці.

Сапраўды, свяшчэнная і вартая радасці гэтая ратавальная і светазарная ноч, у якую Беспачатковае Святло ў плоці праззяла ўсім з гроба. Ці можа хто змерыць глыбіню цяперашняй радасці? Колькі прайшло стагоддзяў пасля Уваскрасення Хрыстовага, колькі змянілася пакаленняў, народаў і звычаяў, але гэтая свяшчэнная радасць заўжды аднолькава чыстая і невымоўная, яна бязмерна пераўзыходзіць усе зямныя радасці.

Пасхальны канон абвяшчае гэтую радасць так: **"Небеса убо достойно да веселятся, земля же да радуется, да празднует же мир, видимый же весь и невидимый: Христос бо восста веселие вечное"** *(спеў 7)*.

Гэтая радасць Зямлі і Неба вынікае ад усведамлення таго, што Хрыстос сышоў у апраметную пекла, ззяннем Свайго Бажаства скрышыў вечныя заклёпы, што затрымлівалі там вязнікаў, і даў пераможную Сваю зброю супраць усіх сілаў ада -- Жыватворны Крыж!

З гроба ўваскрэслага Госпада занялася зара ўсеагульнага ўваскрасення: **"...ибо как во Адаме все умирают, так во Христе все оживут"** *(1 Кар. 15, 54)*. Не страшная цяпер і магіла, бо **"поглощена смерть победою"** *(1 Кар. 15, 54)*, а яна ўчынілася ціхім пераходам да лепшага жыцця. Не абцяжарвае ўжо з набліжэннем да труны смутак адчаю, бо яснае Сонца праўды Сваімі найсвятлейшымі праменямі азарыла змрочны канец нашага зямнога шляху.

Радуецца сёння грэшнік, бо з гроба Жыццядайніка праззяла благадаць уседаравання, усынаўлення і далучэння да Жыцця Вечнага!

Радуецца сёння пакутнік, бо з гроба ўваскрэсла суцяшэнне ў пакутах, прыстанак і сіла ў журботах.

Радуецца сёння бядняк, бо з гроба адкрыты шлях да вечных благаў, якіх ні сэрца не можа адчуць, ні розум не можа ахапіць.

Радуецца сёння з радасцю нашай і неразумнае стварэнне, бо і яно атрымала залог новага, лепшага жыцця!

Узлюбленыя! Сёння ўсе аднолькава зазнаюць духоўную радасць: і тыя, хто ведае пісанні, і хто не ведае, вучоныя багасловы і невучоныя прасцяцы, і нават маладасведчаныя отракі -- апошнія, пры тым, не менш, калі не больш за першых. Хто ж і што ўчыняе гэты дзівосны ўсеагульны радасны настрой? -- Невідочная благадаць, таямнічая прысутнасць на зямлі Самога ўваскрэслага Госпада, Які пажадаў, каб ніхто з нас не быў у журбоце і смутку.

І калі Ён, па Сваім бажэственным і найсалодшым голасе, з намі абяцаўся быць да сканчэння веку, тым болей знаходзіцца з намі ў цяперашнія дні Яго праслаўлення і перамогі над адам і смерцю!

Але як некалі Ён, пры дзвярах зачыненых явіўся смуткуючым Апосталам і даў ім мір і, як смуткуючым міраносіцам, прамовіў: **"Радуйцеся!"** -- і гэтымі жыватворнымі словамі напоўніў невыслаўёнаю радасцю сэрцы іх, так Ён, Найсалодшы Спасіцель наш, у гэтыя свяшчэнныя і ратавальныя дні нябачна знаходзіцца сярод нас і таямніча спавядае нам мір і радасць.

Праваслаўныя! Гэтая свяшчэнная ноч ёсць прадвесніца светазарнага дня ўсеагульнага ўваскрасення, пачатак будучай бясконцай нябеснае радасці. Бо што ўяўляюць сабою нашы праваслаўныя храмы са сваімі благалепнымі аздобамі і свяшчэннадзеяннямі, -- як не самое неба і таямнічую прысутнасць тут нябесных сіл?

Што прадзнамяную сабой няспанне ў гэтую ратавальную ноч, гэтыя нязмоўчныя славаслоўі і хваласпевы ўваскрэсламу Спасіцелю, гэтыя частыя яўленні сярод нас свяшчэнаслужыцеляў у бліскучых аддзеннях, гэтае наша прадстаянне прастолу Алтара пры адчыненай царскай браме, -- як не тую светлую і нясканчальную раніцу, калі веруючы народ разам з ангеламі і ўсім нябесным стварэннем будзе прадстаяць прастолу Божае славы, пакланяцца Цару вякоў, Які там уваседае, і нязмоўчна ўваccылаць Яму славу і чэсць (Апак. 19, 1--7).

А што прадвяшчае сабой гэты заклік святой Царквы да адной толькі духоўнае радасці і вясёлосці, без усялякага напаміну пра нашы грахі і недахопы, і гэтае запрашэнне ўсіх нас без выключэння да ўзаемнага даравання і сяброўскага прывітання, -- як не той райскі стан, калі **"не будет ни плача, ни вопля, ни болезни"** (*Апак. 21, 4)*, калі не будзе ні злахітрыя, ні ілжы, ні падману, ні нянавісці, ні варожасці, ні злосці, але будзе сярод верных адна найчысцейшая любоў і будуць **"все одно во Христе Иисусе"** *(Гал. 3, 28)*.

Таму, узлюбленыя, у гэты слаўны дзень і гэтую светазарную ноч Уваскрасення Хрыстовага святая Царква запрашае нас да аднаго духоўнага захаплення і незвычайнай радасці, каб яшчэ тут, на зямлі, далучыцца бажэственнай вясёлосці Царства Хрыстовага *(Пасхальны канон, спеў 8)*.

Свяціся, свяціся, новы Іерусаліме -- Царква Божая! Радуйся сёння і весяліся, душа хрысціянская! Насалоджвайся святлом бажэственным, што агарнула цябе ў гэтую свяшчэнную ноч! Не адводзь пагляд тваіх з Віноўніка сённяшняй радасці -- уваскрэслага Спасіцеля твайго, нясі Яму пераможныя спевы і пацвердзі вернасць Яму справамі міласэрнасці і любові!

Дарагая паства праваслаўная! Не азмрочым жа мы светлых дзён учынкамі цемры! Будзем імкнуцца да духоўных вышынь, на якія ўзвяла нас святая Царква, і чакаць, калі нябесныя ангелы і мы, зямныя вандроўнікі, разам збярэмся ў доме Айца Нябеснага вечна святкаваць Пасху Божую ратавальную! Амінь!

ХРЫСТОС УВАСКРЭС!
ІСЦІННА ЎВАСКРЭС!

**ФІЛАРЭТ,
МІТРАПАЛІТ МІНСКІ І СЛУЦКІ,
ПАТРЫЯРШЫ ЭКЗАРХ
УСЯЕ БЕЛАРУСІ.**

Пасха Хрыстова,
1994 г., Мінск.

# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*ПРЭЗІДЭНЦКІЯ ГОНКІ*

## ПАЧАЛАСЯ РЭГІСТРАЦЫЯ ІНІЦЫЯТЫЎНЫХ ГРУП

**На чарговым пасяджэнні Цэнтральнай выбарчай камісіі рэспублікі, якое адбылося 18 красавіка, пачалася рэгістрацыя ініцыятыўных груп па збору подпісаў за вылучэнне кандыдатаў у прэзідэнты Беларусі. Пад нумарам 1 камісіяй зарэгістравана ініцыятыўная група, якая мае намер збіраць подпісы за кандыдатуру прэм'ер-міністра краіны Вячаслава Кебіча. У яе састаў увайшлі 3 920 чалавек на чале з генеральным дырэктарам ВА "Гарызонт" Аляксандрам Санчукоўскім.**

**Другой прайшла рэгістрацыю група па збору подпісаў за вылучэнне кандыдатам у прэзідэнты рэспублікі Васіля Новікава. У ёй налічваецца 3 041 чалавек. Трэцяй у спісе зарэгістраваных стала ініцыятыўная група, якая вырашыла збіраць подпісы за кандыдатуру былога Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслава Шушкевіча. У яе складзе -- 1 420 чалавек. І, нарэшце, чацвёртай у гэты дзень Цэнтральная выбарчая камісія зарэгістравала ініцыятыўную групу колькасцю 2 734 чалавекі, якая будзе збіраць подпісы сярод насельніцтва за вылучэнне кандыдатам у прэзідэнты лідэра БНФ, народнага дэпутата рэспублікі Зянона Пазьняка.**

## РЫНАЧНЫЯ РЭФОРМЫ — ЗА ДВА ГАДЫ

**У Нацыянальным прэс-цэнтры ў Мінску адбылася сустрэча журналістаў з членамі ініцыятыўнай групы па вылучэнню Станіслава Шушкевіча кандыдатам у прэзідэнты.**

**Старшыня АДПБ Аляксандр Дабравольскі заявіў, што прэтэндэнт на пасаду прэзідэнта павінен выклікаць перш за ўсё давер, паважаць закон, мець цвёрдыя дэмакратычныя прынцыпы і намер праводзіць эканамічныя рэформы, карыстацца міжнародным аўтарытэтам. Усе гэтыя якасці, паводле слоў Аляксандра Дабравольскага, уласцівыя Станіславу Шушкевічу. На думку Віктара Алампіева, стаўшы прэзідэнтам, Станіслаў Станіслававіч зможа гарантаваць няўхільнае выкананне Канстытуцыі, будзе ўмацоўваць суверэнітэт дзяржавы, забяспечыць умовы для эканамічных рэформ і стварэння сапраўды дэмакратычнага грамадства і, што не менш важна, ні ў якой сітуацыі не прыменіць сілу супраць грамадства і народа.**

**Удзельнікі прэс-канферэнцыі даволі падрабязна расказалі аб эканамічнай праграме свайго прэтэндэнта, якая, паводле іх слоў, дасць магчымасць ажыццявіць у рэспубліцы асноўныя рынвчныя рэформы на працягу двух гадоў. Яе асновай з'яўляецца тэзіс аб тым, што незалежнасць дзяржавы і працвітанне нацыі неаддзельныя.**

*ВАКОЛ ДАГАВОРА*

## ЦВЁРДАЯ ПАЗІЦЫЯ ПРЭМ'ЕРА

**Вячаслаў Кебіч на сустрэчы з вялікай групай журналістаў падкрэсліў, што сёння любому чалавеку абсалютна ясна: без саюза з Расіяй немагчыма выйсці з крызісу, немагчыма палепшыць жыццё людзей. Калі ўсё грамадства спрабуе крытычна пераасэнсаваць трагедыю мінулага і зразумець сэнс рэальнага суверэнітэту, то тыя, хто называе сябе нацыянал-патрыётамі, жывуць у сярэдневяковых ілюзіях. Вячаслаў Кебіч назваў дагавор з Расіяй адзіным спосабам захавання суверэнітэту Беларусі. Ён таксама выказаў ідэю правесці ў бліжэйшы час адкрытае пасяджэнне Прэзідыума Савета Міністраў з неабмежаваным удзелам усіх зацікаўленых і прадстаўнікоў друку, радыё і тэлебачання.**

*ЛІТВА--БЕЛАРУСЬ*

## ПАГАДНЕННЕ АБ ПЕНСІЁННЫМ ЗАБЕСПЯЧЭННІ

**Літва і Беларусь падпісалі пагадненне на пяцігадовы тэрмін аб правах і гарантыях грамадзян у галіне пенсіённага забеспячэння.**

**Пагадненне прадугледжвае, што грамадзянам Беларусі, якія пастаянна пражываюць у Літве, пенсіі будзе назначаць і выплачваць Літва, і наадварот. Лічыцца, што гэта пагадненне эканамічна выгаднае для Літвы, таму што міграцыя ў Літву меншая.**

**Пагадненне ў Вільнюсе падпісалі міністр сацыяльнай абароны Літвы Міндаўгас Станкявічус і міністр сацыяльнага забеспячэння Беларусі Вольга Даргель. Бакі распрацоўваюць зараз дагавор аб супрацоўніцтве ў галіне працаўладкавання, які актуальны для грамадзян абедзвюх краін, якія пражываюць у пагранічнай зоне.**

*ПАГРОЗА ЭПІДЭМІІ*

## АДОЛЬВАЕ ТУБЕРКУЛЁЗ

**Эпідэмія туберкулёзу можа не абмінуць і Гомельшчыну, сцвярджаюць медыкі. Калі ў 1985 годзе колькасць выяўленых хворых з запушчанай формай туберкулёзу склала 8,5 працэнта, то да 1994 года гэта лічба вырасла амаль у 1,5 раза. На думку медыкаў, адной з магчымых прычын распаўсюджвання захворвання стала рэзкае скарачэнне масавых прафілактычных аглядаў насельніцтва.**

*ПАМЯЦЬ*






**У Міжнародны дзень вызвалення вязняў фашысцкіх канцлагераў у мінскай сярэдняй школе N 137 адбылася традыцыйная сустрэча былых непаўналетніх вязняў. Успаміны аб перажытым ніколі не пакінуць людзей, чыё дзяцінства прайшло ў няволі, за калючым дротам. Іх радасцю быў выпадковы кавалак хлеба, іх шчасцем было тое, што засталіся ў жывых. І яны лічаць сябе ў даўгу перад памяццю сваіх равеснікаў, якія бясследна зніклі ў лагерных равах смерці, у агні крэматорыяў.**

**Пра гэта гаварылася на адкрыцці новай экспазіцыі ў школьным музеі, прысвечаным былым малалетнім вязням. А створана яна сумеснымі намаганнямі Асацыяцыі былых непаўналетніх вязняў, вучняў і педагогаў школы пры падтрымцы беларускага фонду "Узаемаразуменне і прымірэнне" і іншых спонсараў.**

**НА ЗДЫМКАХ: Вера АНТАНЕВІЧ прайшла цераз лагеры Асвенцім, Дахау, Берхтэсгадэн. А было ёй тады пятнаццаць гадоў; група ўдзельнікаў сустрэчы былых малалетніх вязняў.**

*СУПРАЦЬ ЗЛАЧЫННАСЦІ*

## МІЛІЦЭЙСКІЯ АКЦЫІ

**Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь правяло шэраг шырокамаштабных акцый па барацьбе з усімі відамі злачыннасці ў рэспубліцы. У дні правядзення гэтых акцый большасць органаў унутраных спраў была пераведзена на дванаццацігадзінны рэжым работы, арганізаваны дадатковыя патрульныя маршруты з прыцягненнем сіл і сродкаў унутраных войск, Міністэрства абароны, грамадскасці. У выніку работнікам міліцыі ўдалося раскрыць 2 400 злачынстваў, выявіць больш тысячы злачынных замахаў у сферы эканомікі, затрымаць 2 600 злачынцаў.**

*ПЕРШЫЯ*

## РЭКАМЕНДАЦЫІ АД РАКФЕЛЕРА

**Агародніцкі саўгас магілёўскай аграгандлёвай фірмы "Днепр" першым з краін СНД уключаны ў праграму фонду Ракфелера на 1994 год. Спецыялісты гэтай добра вядомай у свеце арганізацыі па аказанню дапамогі ў развіцці сельскай гаспадаркі маюць намер абследаваць палі саўгаса і выдаць рэкамендацыі па вырошчванню гародніны. За выкананнем усіх агратэхнічных мерапрыемстваў яны будуць весці кантроль на працягу двух гадоў.**

*НА ГРАНІЦЫ*

## НЕЛЕГАЛЬНЫЯ МІГРАНТЫ

**Аператыўнае падраздзяленне пагранвойск Рэспублікі Беларусь правяло чарговую паспяховую аперацыю па затрыманню нелегальных мігрантаў. На гэты раз спробу парушыць дзяржаўную мяжу зрабілі 22 грамадзяніны Індыі і Шры-Ланкі, якія прыбылі з Расіі і Украіны і мелі намер праз Беларусь, Літву, Польшчу і Германію папасці ў Галандыю.**

**Яшчэ знаходзячыся ў Мінску, азіяты былі ўзяты пад кантроль пагранічнікамі, якім удалося "вылічыць" і арганізатара пераправкі нелегалаў за мяжу. Ён, дарэчы, узяў за пераправу па 3 тысячы долараў ЗША за чалавека. На трох аўтамабілях індусы і ланкійцы былі дастаўлены да граніцы з Літвой каля вёскі Селюкі Ашмянскага раёна, дзе і былі затрыманы пагранічнікамі.**

## РЭЖЫМ ЗОНЫ

**Услед за Брэсцкай вобласцю і на тэрыторыі Гродзеншчыны на беларуска-польскім участку граніцы ўстаноўлена пагранічная зона. Рашэннем аблвыканкома зацверджаны таксама пералік пасялковых, сельскіх Саветаў і населеных пунктаў, у межах якіх яна праходзіць. Пагранічным войскам пакінуты ў бестэрміновае карыстанне раней адведзеныя зямельныя ўчасткі ў межах 800 метраў ад лініі дзяржаўнай граніцы да лініі праходжання інжынерных збудаванняў, а таксама зямельныя ўчасткі, на якіх размяшчаліся іх інжынерныя загароды і іншыя аб'екты.**

**Гэтым жа рашэннем аблвыканком устанавіў на граніцы з Літвой пагранічную паласу шырынёй ад 200 да 500 метраў, уключаючы тэрыторыю пунктаў пропуску праз яе.**

*КАНТРАБАНДА*

## ГЕРАІН У ДЫПЛАМАЦЕ

**Бліскуча праведзена аперацыя па затрыманню буйной партыі наркотыкаў. 2 кілаграмы гераіну было знойдзена ў злачынцаў у звычайным на выгляд дыпламаце, спецыяльна абсталяваным у заводскіх умовах такім двайным дном, якое дае магчымасць схаваць наркотыкі ад прамянёў спецыяльнай апаратуры, якая прымяняецца на граніцы і ў аэрапортах. Гандляроў смяротным зеллем удалося ўзяць з доказамі злачынства ў момант перадачы тавару з рук у рукі.**

**Надзвычайная небяспека раскрытага злачынства ў тым, што ў даным выпадку размова ішла не толькі аб прывычным ужо транзіце наркотыкаў праз тэрыторыю нашай рэспублікі, але і аб спробе арганізаваць сістэму іх збыту ў Беларусі.**

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

ДА 131 тысячы гектараў з 205 тысяч скароцяцца сёлета плошчы пад бульбай у грамадскім сектары -- калгасах і саўгасах. Няма збыту бульбы за межамі Беларусі.

ЗА ПЕРШЫ квартал 1994 года на мытнях было канфіскавана 650 тон хлебабулачных вырабаў, 145 тон малака і малочнай прадукцыі. Гэты тавар нелегальна вывозіцца на рынкі ў асноўным расійскіх гарадоў.

НЕ ЗНАЙСЦІ канверта ў паштовых канторах Віцебшчыны. У гады "единого Союза" яны выраблялiся на расійскіх фабрыках Дзяржзнака і ў Рызе. Цяпер гэта -- за дзяржаўнай мяжой, а старыя запасы канвертаў скончыліся.

ПРЭЗІДЫУМ Вярхоўнага Савета Беларусі прыняў рашэнне пабудаваць у Мінску дом-гасцініцу парламента рэспублікі. У яго 200 нумарах-кватэрах будуць жыць дэпутаты, якія маюць намер працаваць на пастаяннай аснове.

ІМЕМ Пятра Алейнікава названа адна з вуліц Шклова. Такім чынам землякі ўвекавечылі памяць аб вялікім кінаакцёры, які нарадзіўся ў вёсцы Крываль на Магілёўшчыне. Пётр Алейнікаў, якому цяпер споўнілася б 80 год, вядомы шырокаму гледачу па кінафільмах "Сямёра смелых", "Трактарысты", "Вялікае жыццё", "Непераможныя" і іншых.

КОЛАСАВАЙ "Дрыгве", якая выйшла ў свет 60 год назад, была прысвечана вечарына ў Доме літаратара ў Мінску. Пра твор і легендарнага дзеда Талаша расказвалі навукоўцы, літаратары, артысты. Прысутнічалі сыны Якуба Коласа. Старэйшы, Даніла Міцкевіч, падзяліўся ўспамінамі пра народнага песняра.

**Кіраўніцтва і калектыў Беларускага таварыства "Радзіма", рэдакцыя газеты "Голас Радзімы" выказваюць глыбокае спачуванне Старшыні венскага таварыства "Родина" Алісе Эдуардаўне КУХАР з выпадку заўчаснай канчыны яе сына АЛЯКСАНДРА.**

# "МЫ — ІНАКШЫЯ. І ВАЙНА ДЛЯ НАС БЫЛА ІНАКШАЙ"

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Што ж да пышных урачыстасцяў... Спрабую ўявіць -- і сумна робіцца: зноў на першым плане будуць усё тыя ж бліскучыя пенсіянеры-генералы (армейскія і цывільныя) -- адны і тыя ж, якія даўно надакучылі простым людзям сваім бясконцым мільганнем на экранах, на дэманстрацыях, на здымках... А тыя, што гнілі і мёрзлі ў акопах, што дажываюць -- інвалідамі, хворымі -- у вёсках, у "хрушчоўках", у дамах састарэлых, -- яны ж не прымуць удзелу ў пышных урачыстасцях! Вось калі б і ў прэзідыумах, і ў залах, і на экранах, і ў друку, і на дэманстрацыях, і на мітынгах былі на першым плане менавіта гэтыя героі вайны, -- невядомыя, непрызнаныя, безгалосыя, схварэлыя... Але ж гэтага не будзе, таму што пышныя ўрачыстасці рыхтуюцца бліскучымі ветэранамі -- для саміх сябе. А можа, на гэты раз карціна памяняецца? Пабачым. Бо іначай -- сапраўды, лепш пусціць "святочныя" грошы на лекі і гасцінцы інвалідам, хворым і ўбогім старым.

*-- Чым можна растлумачыць нярэдкія праявы скептычных адносін з боку часткі грамадства да ветэранаў Вялікай Айчыннай? Ці толькі справа ў адпаведнай ідэалагічнай "апрацоўцы"? Якія пачуцці і думкі выклікаюць у вас выказванні моладзі накшталт: "Лепей бы нас не вызвалялі, то пілі б сёння таннае баварскае піва"?*

-- Пачну з канца. Агідна і сорамна чытаць такое. Сорамна і за тых маладых, і за нас старэйшых, і за наша грамадства. Гэта --крайняе апушчэнства, распад і дэградацыя; гэта тое, што паза ўсякай мараллю, ад чаго не толькі сорамна, але і страшна. Страшна за будучыню Беларусі: у чыіх руках яна можа апынуцца! Аматарам таннага піва скажу рэзка: няшчасныя наіўныя прастакі! Не пілі б вы піва, а пілі б смярдзючае пойла з нямецкай ражкі -- як рабочыя жывёліны. Калі б наогул паявіліся на свет, што вельмі сумніўна, бо паводле гітлераўскага плана "Ост" зусім не прадугледжвалася, каб вашы бацькі і затым вы жылі на гэтым свеце. Ну хоць гэтыя элементарныя рэчы трэба ведаць усё-такі, будучы чалавекам і грамадзянінам суверэннай дзяржавы? Ніякі Гітлер півам -- у сэнсе: добрым жыццём -- не забяспечыць. Дабрабыт для сябе мы можам стварыць толькі самі, толькі мазольнай працай -- у свабоднай незалежнай краіне, пры разумнай і мудрай дзяржаўнай уладзе. Вось пра гэта і трэба сёння думаць -- пакуль не позна. Пакуль не знайшоўся новы Гітлер -- з ражкаю пойла.

Чым растлумачыць непавагу многіх грамадзян да ветэранаў вайны? Вялікае пытанне, доўгі адказ. Ёсць грамадзяне, якія наогул нічога, апрача сваёй прыхамаці ды "зялёненькіх", не паважаюць. Але ж не толькі гэткіх вы маеце на ўвазе. Прычына прычын -- закладзеная ў самой грамадскай сістэме агульная непавага да чалавека. Адсюль і непавага да сваёй уласнай краіны, да яе гісторыі, да сваёй мовы і культуры, звычаяў і традыцый. Адбылося зрушэнне саміх асноў грамадскай маралі. Верх узялі прымітыўны прагматызм і бездухоўнасць. Вельмі многімі страчана абавязковае для нармальнага чалавека разуменне элементарных маральных ісцін. У вядомым спектаклі "Трыбунал" родныя дзеці садзяць бацьку ў мяшок -- каб аднесці і ўтапіць яго ў рацэ. А ўся зала глядзіць і заходзіцца ад рогату -- замест таго, каб заплакаць перад гэтай безданню амаральнасці. Дык якой вы хочаце павагі да ветэранаў, калі роднага бацьку можна вось гэтак? Дзякуючы хлусні, несправядлівасці, казёншчыне, той самай пышнасці для бліскучых, адбылася ў пэўнай меры дыскрэдытацыя самога подзвігу народа ў Вялікай Айчыннай. А адпаведная ідэалагічная "апрацоўка" таксама мела месца, але глебу для яе мы стварылі самі.

*-- Адпаведна з боку старэйшых можна пачуць: новае пакаленне не паважае ветэранаў, не шануе памяць. Але ж гэтае новае пакаленне не звалілася з Месяца, яно народжана і выхавана тымі, хто цяпер прад'яўляе да яго прэтэнзіі. Ці не атрымліваецца ўсё згодна з вядомай прымаўкай: што пасееш, тое і пажнеш?*

-- Бясспрэчна, толькі так і трэба на гэта глядзець: што пасеялі -- тое і пажынаем. Узаемаадносіны пакаленняў складваюцца ці не складваюцца перш за ўсё па віне старэйшых. Крануся толькі аднаго аспекту праблемы. Вось сёння многія ветэраны, асабліва з бліскучых, крыўдзяцца на маладых, што тыя не шануюць памяць гадоў вайны, іх подзвігі, дарагія для іх даты і святы. Справядліва нібыта. Сапраўды -- старым заслужаным людзям крыўдна. Але дазвольце спытаць: а чаму вы, паважаныя дзяды, патрабуючы ўшанавання знамянальных дат аднаго стагоддзя, не ўшаноўваеце вялікія свяшчэнныя даты падзей, што мелі месца на нашай зямлі за ўсе дзесяць стагоддзяў? Чаму вы не даяце прыкладу пашаноўных адносін да ўсёй шматпакутнай гісторыі народа? Чаму ні адзін з вас у зале Вярхоўнага Савета не выступае ў абарону незалежнасці Беларусі? У абарону правоў беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай? Чаму ніхто з вас публічна не карыстаецца гэтай мовай? А гэта ж тое, што сёння найбольш хвалюе маладых, чым сёння жывуць новыя пакаленні. Дзе ж ваша мудрасць, выбачайце?

*-- Гераізацыя Вялікай Айчыннай вайны ў савецкія гады была аксіёмай. Яе вымагалі ад літаратуры, мастацтва, ідэалогіі наогул. Гэта добра ці дрэнна, на ваш погляд?*

-- Вайну, як і жыццё наогул, трэба адлюстроўваць у літаратуры і мастацтве праўдзіва. Тады ў гэтым адлюстраванні будзе ўсё: і гераічнае, і трагічнае, і камічнае. Хоць нават і ў самым камічным на вайне я неадменна бачу трагічнае -- трагедыю чалавека. Для чалавека, для сям'і, для народа вайна -- гэта перш за ўсё трагедыя. Гэта -- боль і пакуты, пажары і зруйнаванні, холад і голад, кроў і смерць. Усякая ідэалізацыя вайны -- гэта тое, што, на маё разуменне, разыходзіцца з мараллю. Калі б вайна была нечым іншым, а не бядой-горам, не трагедыяй, -- чаго б усе народы Еўропы так чакалі яе заканчэння і ўсталявання міру?

*-- Перамога над фашызмам -- адна з гуманістычных вяршынь у гісторыі чалавецтва -- была жорстка ідэалагізавана, пасля яе пачалося суровае размежаванне людзей на "чыстых" і "нячыстых". Сёння ў гэтым вінавацяць той час. Але ж занадта ўжо крывавай была тая вайна, таму, магчыма, усё, што здарылася пасля вызвалення, несла аб'ектыўны характар?*

-- У вайне выпрабоўваўся чалавек. Розныя людзі прайшлі яе па-рознаму і выйшлі з яе рознымі. Так, яна была для нас страшна крывавая, так, нашы страты ў вайне жахлівыя, -- адсюль і крыўда, і боль, і многія іншыя яе паследкі. Адсюль і пасляваенны падзел на "чыстых" і "нячыстых". Іначай, намнога прасцей успрынялі заканчэнне вайны ў Германіі. "Нас, немцаў, разграмілі. Мы вінаваты -- усе. Мы пайшлі за ашалелым фюрэрам. Усе -- атрымалі балючы ўрок. Усвядомім гэта -- і за работу, за справу. Хто больш вінаваты, хто менш -- такой бяды. Трэба працаваць, аднаўляць гаспадарку. Жыццё на двары. Дзеці нараджаюцца". Так было -- у Германіі. У нас -- іначай. Бо мы -- інакшыя. І вайна для нас была інакшая. Мы -- абараняліся. Якое б яно ні было -- мы абаранялі сваё жыццё. Ад чужынцаў-захопнікаў. А ці ўсе абаранялі? Ці сёй-той сядзеў у запечку? Ці, больш таго, сёй-той дапамагаў немцам? Мы і да сёння на гэта глядзім прыдзірлівым вокам. Не супакоіліся. Да такой ступені набалела нам. І так ужо, відаць, мы, беларусы, ад Бога створаны. Не церпім несправядлівасці. Нейчага жыцця не па заслугах. Напрыклад, "нячыстых" перад імем Радзімы.

*-- На працягу ўсяго XX стагоддзя адным з галоўных, а хутчэй найгалоўнейшым пытаннем на Беларусі была праблема станаўлення яе дзяржаўнасці. Самым непасрэдным чынам яна ўплялася і ў канву падзей другой сусветнай вайны: беларускія калабаранты тлумачылі сваё супрацоўніцтва з немцамі менавіта высакароднай мэтай далейшага стварэння незалежнай Беларусі. Але шмат у каго на гэты конт узнікалі і ўзнікаюць сумненні. Дакументы таго часу сведчаць: на справе не так ужо і рэдка беларускія ўлады часоў вайны выглядалі не столькі абаронцамі сваіх людзей, колькі банальнымі нямецкімі памагатымі. У сувязі з гэтым можна прыгадаць і наступнае. Адначасова са справядлівым абвінавачваннем бальшавікоў у тым, што яны сваёй палітыкай класавай барацьбы сеялі зерне грамадзянскай вайны, самі калабаранты займаліся тым жа самым, калі заклікалі вынішчаць партызанаў -- сваіх жа суграмадзян, беларусаў. Як вы ставіцеся да таго, што людзей, якія ў вайну супрацоўнічалі з немцамі, сёння часам узводзяць у ранг ці не нацыянальных герояў?*

-- Пытанне вельмі складанае. Я ўжо сказаў: людзі ў вайне былі самыя розныя. І па самых розных прычынах многія трапілі ў лік калабарантаў і пасля апынуліся ў эміграцыі. З рознаю доляй віны перад сваім народам або зусім невінаватыя. Як, напрыклад, настаўнікі, якія вучылі дзяцей грамаце. Страх-боязь невінаватых зноў трапіць у сталінскі ГУЛАГ не зразумець нельга. Як і іх крыўду на зламаны лёс. Але ці вынікала з гэтага -- абавязкова ісці да акупантаў на службу? Не вынікала, вядома. Можна было шукаць іншага выйсця. У гады другой сусветнай увесь дэмакратычны свет змагаўся супроць фашызму, і той, хто ў гэты час падтрымліваў Гітлера, дапамагаў Гітлеру, -- той у вачах сучаснікаў накладаў на сябе кляймо ганьбы. І тут ужо нічога не зробіш -- у кожнай краіне свету, уцягнутай у гэту вайну, было так. Лаўрэату Нобелеўскай прэміі калабаранту Кнуту Гамсуну абражаныя нарвежцы прыносілі і кідалі яго геніяльныя кнігі яму на падворак: ты зганьбіў сваё імя! Пра які ж тут ранг нацыянальнага героя можна гаварыць? Перад чалавецтвам стаяла задача -- знішчыць чуму фашызму. Гэта было галоўнае.

Трагедыя беларускіх калабарантаў (маю на ўвазе ідэйных, а не банальных, як вы кажаце) -- гэта частка трагедыі ўсяго нашага народа. Як ім, свядомым беларусам, цягам дзесяцігоддзяў балела за лёс Бацькаўшчыны -- кроенай-перакроенай, бяспраўнай, зняважанай, асіміляванай, -- гаварыць няма патрэбы. І яны нават ва ўмовах сусветнай бойні, хаосу і разладу наважылі хоць нешта зрабіць для адраджэння нацыянальнай самасвядомасці беларусаў, для пашырэння ідэі аб дзяржаўнай незалежнасці Беларусі, якую раней ці пазней, а трэба здабыць. Не думаю, што ўсе яны былі звышнаіўныя і верылі ў адраджэнне незалежнай Беларусі пад немцамі (ужо ж выпадак з тэлеграмай Вільгельму навучыў не верыць). Але яны хацелі скарыстаць магчымасць, каб зноў на ўвесь свет заявіць аб праве Беларусі на незалежнасць. Яны ведалі, якою дарагой цаной ім давядзецца заплаціць за гэта -- калі не жыццём, дык ганьбай і пагардай суайчыннікаў. І заплацілі. Прычым, многія з іх загінулі ад рук саміх гітлераўцаў.

Як бачым, пытанне аб калабарантах на Беларусі мае іншае гучанне, чым у той жа Нарвегіі, ці ў Францыі, ці ў якой яшчэ еўрапейскай краіне. У гэных, у еўрапейцаў, не было ў душы таго, што было ў беларусаў: страшэннага чорнага болю за ўсю шматвяковую крыватачывую гісторыю Бацькаўшчыны, за ўсё яшчэ не ажыццёўленую мару аб яе свабодзе і незалежнасці.

Ну, а тыя "банальныя памагатыя", што служылі ў карных атрадах, што забівалі, палілі, знішчалі мірнае насельніцтва, -- тыя ні пра якую незалежную Беларусь не думалі. Звычайныя рабаўнікі і забойцы, адкіды роду людскога. Пра іх гаварыць не варта.

*-- Здараецца, параўноўваюць ролю немцаў і бальшавікоў на Беларусі. Ці лічыце вы такое параўнанне карэктным?*

Яно не тое што некарэктнае -- яно, па-мойму, цынічнае, гэта параўнанне. Хто больш, а хто менш зрабіў для Беларусі зла? Калі загінула больш людзей беларускіх -- за семдзесят гадоў панавання бальшавізму ці за тры гады нямецка-фашысцкай акупацыі? А для чаго, скажыце, навошта гэта трэба параўноўваць? Ну, дапусцім, адны знішчылі беларусаў на сто тысяч, ці на трыста тысяч, ці нават на паўмільёна -- менш. І што? Іх віна перад нашым народам меншая? І наш рахунак да іх павінен быць больш літасцівы? Гэта паводле якой жа маралі? Гэта якім жа судом судзячы? Калі мы ведаем, як "клапаціліся" пра Беларусь "калектывізатары" і "інтэрнацыяналісты", колькі самых лепшых, самых свядомых яе людзей -- сялян, інтэлігентаў, рабочых і службоўцаў -- яны паклалі ў дол, выслалі на пагібель у тундру і ў што гэта для лёсу Беларусі абярнулася, і калі мы ведаем пра ўсе тыя жахі, масавыя крывавыя расправы, якія тварылі на Беларусі фашысцкія вылюдкі, і што яны зрабілі з нашай зямлёй, з нашымі гарадамі і вёскамі, наколькі яны скарацілі наш таленавіты народ і ў што гэта зноў жа для нас, беларусаў, абярнулася, -- дык не аб параўнанні іх "заслуг" мы павінны думаць, а аб тым, што ж гэта за доля наша такая, чаму гэта мы праз усю сваю гісторыю мусім такое цярпець і ці не пара нам нарэшце ўсім згуртавацца, каб раз і назаўсёды з такою доляй пакончыць?

*-- Ахвяры другой сусветнай вайны. Каго вы адносіце да іх? Як ставіцеся да таго, што мёртвыя ўсе роўныя?*

-- Усе, што загінулі, -- усе ахвяры вайны, бо калі б не вайна -- засталіся б жывымі не толькі людзі добрыя, слаўныя, светлыя, але і нягоднікі, што сталі здраднікамі і шчыравалі на акупантаў. Калі б не вайна -- хто б ведаў, што яны -- нягоднікі?

На самым пачатку акупацыі ў нас, у суседняй вёсцы, акружэнцы забілі немца. Для нас ён -- вораг, а для яго сям'і? І сям'я ў сорак трэцім годзе забрала і перавезла ў Германію яго прах. Перад Богам мёртвыя ўсе роўныя. Перад людзьмі і перад памяццю людскою -- так не бывае. "Сабаку сабачая смерць!" -- неаднойчы чытаў я тады ў партызанскіх лістоўках. Вось магіла нелюдзя-забойцы, вырадка, чые рукі па локці ў крыві, хто расстрэльваў, паліў, вешаў нявінных людзей. Што ж я павінен біць перад ёй паклоны, ушаноўваць яго памяць, яго імя? Ну, выбачайце! Спакон веку так не было на нашай зямлі. Вырадкаў-забойцаў людзі праклiналі, а не ўшаноўвалі. І ў гэтым была выява высокай маральнасці народа. І школа грамадзянскай годнасці для маладых пакаленняў.

*-- Лёс, які напаткаў Беларусь у другой сусветнай вайне, такі ж, як і лёс Украіны, Расіі. Славянскае адзінства -- не проста словы. А з вашага пункту гледжання, ці існуе адметнасць у ваенным лёсе Беларусі? Чым застанецца Вялікая Айчынная ў гісторыі нашай Бацькаўшчыны?*

-- Калі ідэю славянскага адзінства разглядаць у кантэксце другой сусветнай вайны -- дык трэба гаварыць не толькі пра рускіх і ўкраінцаў, але і пра палякаў, сербаў, славенцаў, балгараў, чэхаў і іншых. У кожнага з гэтых народаў свой ваенны лёс. У беларусаў -- таксама, хоць ёсць і шмат агульнага з іншымі. Пра яго адметнасць я ўжо па сутнасці сказаў. Дадам толькі вось што. Беларусь была так пакрыўджана -- як народ, як нацыя, што, здавалася б, менавіта яна найбольш павінна была паставіць Гітлеру служак, даць калабарантаў... А дала -- найменш. Гэта -- да пытання, ці ёсць нам чым ганарыцца перад людзьмі і народамі.

Вялікая Айчынная вайна абярнулася для нас, для нашага лёсу нечуванай трагедыяй. Яна застанецца самай трагічнай старонкай у гісторыі Беларусі. Колькі загінула ў ёй нашага народу! І вядома ж -- лепшага. Як аслабеў і збяднеў у выніку наш нацыянальны генафонд! А якія панеслі страты ў тэрыторыях! Колькі этнічна беларускіх земляў адабраў у нас і аддаў суседзям крывавы крамлёўскі тыран! А колькі беларусаў пасля вайны выехала з Беларусі -- у Калінінградскую вобласць, у Карэлію, у Данбас, у Казахстан, у Польшчу! Мільён? Ці нават з гакам? А яшчэ колькі іх вывезлі гвалтам -- у Сібір і на Калыму!.. Затое -- колькі панаехала за той жа час рознага народу да нас, каб пазаймаць тут пасады і папераводзіць усе ўстановы і школы з беларускай мовы на рускую!.. О, Божа прасветлы! Ці бачыў ён усё гэта?! І аднак жа мы ацалелі. І дажылі да незалежнасці. А таму і ўрок з ўсяго гэтага можа быць толькі адзін: значыць, сілы не пакінулі нас, воля і дух не зломленыя, і мы, у клопатах пра нашу незалежную Бацькаўшчыну, абавязаны апраўдаць усе пакладзеныя на яе алтар ахвяры і страты.





Шыла ў мяшку не схаваеш. Што ні рабілі кіраўнікі былога СССР, каб утаіць сапраўдныя маштабы выбуху на Чарнобыльскай АЭС, людзі свету даведаліся ўсю праўду. І ў гэтым вялікая заслуга фотакарэспандэнтаў (прафесійных і аматараў), якія сваімі работамі стварылі дакументальную хроніку страшнай трагедыі. Пройдуць дзесяцігоддзі, а гэтыя дакументы застануцца грозным напамінкам новым пакаленням: якая бяда чакае цэлыя нацыі, калі ў той ці іншай краіне існуе безгаспадарчасць і безадказнасць.

НА ЗДЫМКАХ: адзеты ў саркафаг чацвёрты энергаблок ЧАЭС; гэты ж энергаблок пасля аварыі; у тыя дні спецыяльнымі растворамі мылі дахі і сцены дамоў. Не дапамагло...

Фота з фотатэкі Белінфарма.



## СВЕТ ПАСЛЯ ЧАРНОБЫЛЯ

Споўнілася восем гадоў, як адбылася гэтая трагедыя -- адна з самых страшных па сваіх выніках у гісторыі чалавецтва. У людзей, асабліва тых, хто жыве ў зоне радыеактыўнага забруджвання, па-ранейшаму вялікая трывога за жыццё і здароўе -- сваё, сваіх дзяцей. Навука пакуль не можа адназначна адказаць, што чакае нас заўтра, праз некалькі гадоў, тым больш праз дзесяцігоддзі.

"Свет пасля Чарнобыля" -- II міжнародны кангрэс пад такой назвай праходзіць у Мінску. Праводзіць яго беларускі дабрачынны фонд "Дзецям Чарнобыля" ў садружнасці з няўрадавымі арганізацыямі і грамадзянскімі ініцыятывамі краін СНД, Еўропы, Азіі, Амерыкі і Канады. Больш за 120 чалавек з 16 краін прыбылі на гэты форум, каб абмеркаваць найактуальнейшыя праблемы, звязаныя з вынікамі катастрофы.

Сярод выступаючых -- буйныя вучоныя, вядомыя палітычныя і грамадскія дзеячы. На пленарных пасяджэннях, у рабоце праблемных секцый абмяркоўваюцца навуковыя і глабальна-экалагічныя аспекты чарнобыльскай катастрофы, навукова-медыцынскія праблемы, вынікі і ўрокі міжнароднага гуманітарнага супрацоўніцтва па чарнобыльскіх праграмах. Асобна стаіць пытанне аб развіцці ядзернай энергетыкі і альтэрнатыўных крыніцах энергіі. Дакументы і рэкамендацыі, выпрацаваныя на прадстаўнічым форуме, несумненна, адыграюць сваю ролю пры распрацоўцы далейшых канцэпцый пераадолення вынікаў катастрофы.

## З ГІСТОРЫП ЎЗБУЙНЕННЯ БССР

# "ЛІЧЫЦЬ ДАКАЗАНЫМ..."

### № 8

### ВЫПИСКА ИЗ ПИСЬМА т. КОЗЮРЫ К т.УЛЬЯНОВУ ОТ 2.XI.1926 Г. № 104

2. Вопрос о присоединении Гомельщины должен получить свое разрещение. Нужно сказать, что это дело дальше тянуть вредно. Гомельские патриоты настолько распоясались в своих методах защиты от возможной "оккупации" их губернии от БССР, что делают непозволительные вещи, доходя до искривления линии в национальной политике. Зажим, который сейчас применен в Гомельщине ко всему, что так или иначе связывается с БССР и вообще с "белоруссами", начинает давать нехорошие результаты в сторону развития шовинистических настроений и в особенности в части белорусской интеллигенции, работающей на Гомельщине. Я весьма опасаюсь, чтобы все документы и материалы по этому гомельскому патриотизму не попали в руки наших врагов, что не исключено, благодаря участию в этой борьбе беспартийных групп.

Сейчас подбираю все документы по гомельскому патриотизму и буду ставить вопрос как по линии директивных органов, так и по линии НКИД. Нужно несколько разрядить атмосферу и кое-кого призвать к порядку, иначе для нас не исключены всякие сюрпризы. Постарайтесь, чтобы пока о Гомельщине в прессе наших друзей говорилось меньше.

Верно: (подпіс неразборлівы)

*Дапісана ўнізе фіялетавым чарнілам: т.Ульянов -- белорус, советник нашего Полпредства в Варшаве.*

### № 9

### ВЫПИСКА

2. Дальше я хочу обратить внимание НКИД на те недопустимые вещи, которые творятся в Гомеле, в связи с присоединением Гомельщины к БССР. Ряд гомельских ответственных работников, занимающих руководящее положение в губернии и окружных организациях и настроенных против присоединения Гомельщины к БССР, проявляют исключительно горячий патриотизм гомельского привкуса, граничащий с искривлением партийной линии в нацполитике и выливающийся в форму узколобого русотяпства и безобразия. Здесь есть факты: исключение комсомольцев из организации за белорусскую работу, угрозы оружием (наганом) беспартийному учителю со стороны работника наробраза за то, что первый осмелился отстаивать свое мнение о необходимости увеличения белорусских школ, запрещение и рогатки белорусскому театру, гастролирующему сейчас на Гомельщине, в устройстве спектаклей на белорусском языке, запрещение чтения лекций о Белоруссии на Гомельщине (снята лекция тов. Игнатовского по истории, культуре и искусству Белоруссии) и т.д. Словом, пышный "букет" бюрократических мероприятий, среди которых "тащить и не пущать" занимает главное место. Усердие не по разуму. А главное, что милые наши товарищи в Гомеле дают массу документов и фактов, которые могут попасться в руки враждебных нам политически лиц -- пражских и других белорусских кругов. Если они будут опубликованы в заграничной печати, то эффект получится колоссальный. Гомельский патриотизм, объективно граничащий с враждебной деятельностью против СССР, нужно обуздать. Сейчас я собираю материалы и факты из "гомельской эпопеи", которые в ближайшее время пересылаю в НКИД, с тем чтобы Коллегия на основании их предприняла необходимые меры, могущие успокоить расходившихся "беспардонных героев" Гомельщины, борющихся против оккупации Российской земли белорусским империализмом. Кроме того, этот же вопрос ставлю в авторитетных органах Минска.

Верно: (подпіс нрзбл.).

*Дапісана ўнізе ад рукі: Козюра -- уполномоченный НКИД в БССР.*

Заканчэнне. Пачатак у №№ 15-16.

### № 10

### ПРОТОКОЛ ЗАСЕДАНИЯ КОМИССИИ ПОЛИТБЮРО (ЦК ВКП(б)) ПО ВОПРОСУ О ПРИСОЕДИНЕНИИ ГОМЕЛЬСКОЙ И ЧАСТИ ПСКОВСКОЙ ГУБЕРНИЙ К Б.С.С.Р. ОТ 23.XI.1926 г.

Присутствуют: т.т. Косиор, Енукидзе, Киселев, Белобородов, Лебедь, Петерс, Криницкий, Адамович, Хацкевич (БССР), Заславский, Егоров (Гомель).

Слушали: Об установлении точных границ Белоруссии на основе решения П/бюро от 18.XI.26 г. (пр. N 68, п.7).

Постановили: 1. Присоединить Гомельский и Речицкий уезды Гомельской губернии в основном в существующих границах (включая и город Гомель) к Белоруссии.

2. Вопрос о возможности присоединения оставшихся трех уездов Гомельской губернии (Новозыбковский, Клинцовский, Стародубский) к Брянской губернии передать на рассмотрение фракции президиума ВЦИК'а.

3. Предложить фракциям Президиума ВЦИКа и ЦИКа в двухнедельный срок оформить решение в советском порядке и опубликовать в печати.

4. Для разрешения всех вопросов хозяйственного и советского порядка, связанных с присоединением Гомельского и Речицкого уездов к БССР, считать необходимым создание паритетной комиссии из представителей ЦИК СССР, РСФСР и БССР.

5. Разрешить ЦК КП Белоруссии и Гомельскому Губкому информировать свои парторганизации о принятых решениях; оглашение в каком бы то ни было виде в печати допустить только после вынесения решения в советском порядке[8].

6. Присоединение парторганизаций Гомельского и Речицкого уездов и подчинение их ЦК КП Белоруссии провести после решения вопроса об остальной части Гомельской губернии.

7. Предложить Гомельскому Губкому не откомандировывать и не перемещать работников Гомельского и Речицкого уездов без согласования с ЦК КП Белоруссии.

Председатель: С.Косиор

Верно: Виноградов

### № 11

### РЕЧЬ тов.ШВЕРНИКА (НА ПЛЕНУМЕ ГОМЕЛЬСКАГА ГУБКОМА, УКП(б) 4.XII.1926 г. ФРАГМЕНТЫ)

Комиссия, ознакомившись на месте, установила, что разговорный язык этих уездов (Гомельскага і Рэчыцкага) белорусский с примесью русских слов. Комиссия также установила, что отношение населения к присоединению к Белоруссии отрицательное[9]. Ячейки также подтверждали, что отношение населения к присоединению к Белоруссии резко отрицательное, но если будет решение ЦК, то они проведут решение ЦК в жизнь. Комиссия установила, что в экономическом отношении имеется некоторая зависимость Гомельской промышленности от Белорусской Республики в смысле заготовок и снабжения сырьем. Комиссии не было поручено Центральным Комитетом делать предложений, поэтому обвинения ее в пристрастии к Белорусской Республике неправильны.

Центральный Комитет решил считать доказанным, что население Гомельского и Речицкого уездов белорусское, и считает необходимым присоединить их к Белоруссии. ЦК не мог установить границ передаваемых уездов, передав этот вопрос на разрешение Комиссии. Остальная часть губернии, по всей вероятности, будет включена в Брянскую губернию.

Разрешая вопрос о присоединении к БССР двух уездов, ЦК не мог не учитывать того, что обслуживание белорусского населения не может быть поставлено в Гомельской губернии так, как это сделает БССР.

Развитие национального самосознания среди белорусов даст быстрее им заинтересоваться советским строительством и принять более активное участие в этой работе.

Передача этих (промышленных) предприятий укрепит пролетарскую базу БССР.

Наконец, мы не должны упускать из виду политического значения этого вопроса. В то время как наши западные соседи всячески стараются придушить национальные движения своих меньшинств, стесняя возможности свободного национального их самоопределения, мы идем навстречу развитию экономического благосостояния БССР, расширению ее границ на Востоке до естественных этнографических пределов.

Здесь товарищи опасались насильственной белорусизации населения. ЦК не меняет курс, взятый КПБ(б) в вопросе белорусизации, но указал на те ошибки, которые имели место и которые будут исправлены, и бояться здесь, по-моему, нечего.

---

[8] Пастанова Прэзідыума ЦВК БССР аб далучэнні Гомельскага і Рэчыцкага паветаў да складу БССР (Савецкая Беларусь, 1926, 9 снежня, N 280).

[9] Гл. заўвагу пад N 7.

**Публікацыя, уступнае слова, заўвагі Алеся ЛЯМЦЭВІЧА.**

### 76-я ЎГОДКІ БНР

# СВЯТА Ў БУДЗЁННЫ ДЗЕНЬ

Перш чым распавясці аб гэтай імпрэзе, некалькі агульных заўваг, якія, на мой погляд, дапамогуць больш шырока зразумець сэнс і сутнасць яе.

Пачну з таго, што само рашэнне нацыянальна-культурнага таварыства "Белая Русь" аб правядзенні святкавання ўгодкаў абвяшчэння незалежнасці Беларусі ў Львове праходзіла не хутка і не аднагалосна. Сустрэліся два розныя погляды.

З аднаго боку, дзяржаўныя ўлады Рэспублікі Беларусь аніяк не вызначыліся па гэтай даце. Сярод святочных дзён у законе яе няма, хаця яе ніхто і не забараняў. А калі няма дырэктывы зверху святкаваць, то гэта будзённы дзень. Далей, пры абмеркаванні прыводзіліся факты, якія сведчаць, што ў часы існавання Беларускай Народнай Рэспублікі, а таксама ў гады эміграцыі ўрада БНР, асабліва ў гады Вялікай Айчыннай вайны, было дастаткова памылак і кампрамату на дзейнасць урада БНР і яго дзеячаў. Таму лепей за ўсё, як мы і лічылі доўгія савецкія гады, аб гэтым або па-чорнаму, або не так і не сяк, маўчаць, і маўчалі. Хто не з намі, той супраць нас, а значыць -- вораг. Вось і ўся логіка -- разглядаць усе падзеі спрошчана і ў двух колерах. Мабыць у гэтым і хаваецца частка таго саўковага менталітэту, якім славіцца Беларусь. Гэта яна прыдбала і выхавала яго за шматвяковую гісторыю (залежную ад больш моцных суседзяў з Захаду і Усходу) існавання.

І яшчэ. Нешта вельмі кепскае творыцца з нашай памяццю, яна як у тых састарэлых людзей, якія добра памятаюць сваё дзяцінства і не могуць успомніць, што было ўчора. Ці ж можна жыць з такой логікай і з такой памяццю?!

І другое, як сведчыць сённяшняя гісторыя, прагалошаныя неаднаразова Дэкларацыі пра незалежнасць і суверэнітэт не даюць амаль аніякіх практычных падстаў для святкавання. Як пісаў А. Твардоўскі: "Обозначена в меню, а в натуре -- нету". Больш таго, у Беларусі, як і ў іншых рэспубліках былога Саюза, жыццё пагаршаецца, святла ў канцы тунеля не бачна, і любое свята, мякка кажучы, не зусім дарэчнае, каб не сказаць мацней. І ўсё ж перамог той пункт погляду, што немагчыма жыць без свята, якім бы яно ні было, тым больш, калі яно зберaглося ў душах людзей і свеціць у будучыню. Мабыць так складзены беларус, як і іншыя людзі, што надзея на лепшую долю, памірае апошняй. Таму галоўным матывам свята была Незалежнасць як мара і надзея.

Цяпер некалькі фрагментаў самога свята ў Львове.

На сцэне Народнага Дома (колішні будынак Дома афіцэраў) дзяржаўныя сцягі Украіны і Беларусі, плакат "76-я ўгодкі БНР", на стале прэзідыума бел-чырвона-белыя гваздзікі, сімвалізуючыя наш сцяг, у зале беларусы Львоўшчыны і іх сябры. Гучаць гімны Украіны і Беларусі. Сыны і дочкі, патрыёты роднай Беларусі, якія зусім нядаўна апынуліся ў блізкім замежжы, не згубілі свае карані, разам з прадстаўнікамі кіраўніцтва горада і вобласці, прадстаўнікамі іншых нацыянальнасцей шчыра вітаюць далёкую цяпер ад іх Радзіму. І, здаецца, гучыць купалаўскае: "А чаго ж, чаго захацелась ім? -- Людзьмі звацца..." У дакладзе прыводзяцца лічбы і факты далёкай гісторыі, але, угледзеўшыся ў залу не як у агульную масу людзей, а асобна ў твар і вочы кожнага чалавека, можна прачытаць значна больш.

Аб чым думае, што ўспамінае былы беларускі юнак з Магілёўшчыны, зараз генерал-маёр запасу Кулікоў Сяргей Уладзіміравіч? Можа аб тым, як у дзесяцігадовым узросце, зведаўшы фашысцкі канцлагер яго, зморанага голадам, маці выносіць на ганак, каб абагрэць вясновым сонцам. Можа ўспамінае армейскія гарнізоны і сваю дарогу ад байца да генерала, па якой у сваім сэрцы ён пранёс "Мой родны кут, як ты мне мілы..."

Альбо ўгледзьцеся ў аблічча вось гэтага, ужо сівога, элегантнага, шляхетнага складу чалавека. Ён больш маўчыць, але зусім нядаўна львоўская газета "Поклік сумління" ў артыкуле "Наш доктар Матешук" расказала аб ім. Сын вядомага беларускага прафесара-хірурга, ён у 1940 годзе скончыў Віцебскі медінстытут. З першых дзён вайны прымаў удзел у баях за Ліду, Мінск, Смаленск. Камандзір санітарнай роты. Затым трапіў у нямецкі палон і, як тады вялося, у спісы здраднікаў. За што і атрымаў 25 гадоў пакарання і гулагаўскі нумар А-1.81. Але і гэта не скарыла мужнага чалавека. Бо і там, у спецлагеры Інты, і пасля вызвалення вось ужо амаль 50 гадоў сваім талентам і залатымі рукамі хірурга ратаваў жыццё людзям. Гэта аб ім пісаў вядомы ўкраінскі паэт, таксама былы катаржанін, Яўген Чараднічэнка:

**"Тоді, колі одвічний кат**
**Над нами меч Дамоклів зводе,**
**З тобою ми, як з братом**
**брат**
**Син білоруського народу.**

Напярэдадні свята ў праграме "Весткі з Беларусі" па львоўскаму радыё выступіла ўкраінская паэтка Орися Матешук. Яна шчыра прывітала беларусаў Львоўшчыны, нашу Бацькаўшчыну Беларусь з Днём незалежнасці. І як жа пераплецены долі асобных людзей і нашых народаў, калі за тую ж самую незалежнасць Украіны і Беларусі яна апынулася ў адным канцлагеры, у адной брыгадзе адбывала сваё пакаранне разам з нашай паэткай Ларысай Геніюш. Тут жа, у лагеры, аб'яднaлі свае долі ўкраінская паэтка Орися і наш беларус хірург Расціслаў.

А вось ужо ў фае людзі з цікавасцю разглядаюць вышыванкі і макраме, ручнікі і малюнкі, скульптуры і вырабы з дрэва, усяго каля сотні твораў, прысвечаных нашай роднай прыродзе, жыццю і людзям Беларусі. А збоку, зусім непрыкметна, немаладая ўжо жанчына і яе чалавек. Гэта яны сваімі рукамі, рукамі сваіх дзяцей і ўнукаў стварылі гэты цуд. Знаёмцеся: нашы землякі з Гомельшчыны, былая настаўніца Ніаніла і Іосіф Ракаўчукі праз усё жыццё пранеслі і захавалі шчырую любоў да Радзімы.

Але вернемся ў залу, бо там на змену нашым украінскім сябрам, аркестру нацыянальнай гвардыі выйшаў цудоўны калектыў з Мазыршчыны "Радаўніца". Кожны нумар ансамбля прымаецца на "біс" і "брава", і не толькі таму, што гэта высокае майстэрства, але і таму, што яны частка Бацькаўшчыны. На заканчэнне зала, стоячы, грукоча воплескамі... Тут ужо не патрэбны словы. Здарылася свята. Яно не закончылася і за сяброўскай вячэрай, дзе за добрай чаркай было аб чым пагаварыць, бо яшчэ доўга будзе жыць у сэрцах людзей. Яно засведчыла і тое, што Беларусь прачынаецца і жыве не толькі ў Беларусі, а ў сэрцах і душах беларусаў Галічыны.

Зразумела, што гэта не стэнаграма вечарыны, аб усім сказаць немагчыма, а дзе аб чым і не хочацца, бо свята ёсць свята, а каго гэта датычыцца, думаю, зразумеюць...

Але нельга не падзякаваць за добразычлівасць і дапамогу Радзе народных дэпутатаў Львоўскай вобласці, прадстаўніку прэзідэнта пану С. Давымуку, прадстаўнікам нацыянальна-культурных таварыстваў, асабіста калектыву "Радаўніца" і ўсім, без каго гэтага свята не атрымалася б.

**Барыс ЦІМОШЧАНКА,**
**старшыня нацыянальна-культурнага таварыства "Белая Русь".**

Украіна.

# АКТ 25-га САКАВІКА Ў СІДНЕІ

Урачыстае святкаванне 76-х угодкаў гістарычнага абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі Актам 25-га Сакавіка 1918 года пачалося сонечнай раніцай у нядзелю 27-га сакавіка адмысловай Божай службай у Праваслаўнай царкве Амерыканскай юрысдыкцыі ў Сіднейскім прыгарадзе Гомбуш. Царква была напоўнена беларусамі, якія прыехалі ўшанаваць угодкі гэтай, сапраўды вялікай падзеі ў жыцці беларускага народа. Настаяцель царквы, беларус з Беласточчыны айцец Ігар падгатаваў асобную і сэрцапрачулую малітву за незалежнасць Рэспублікі Беларусь і за беларускі народ. На заканчэнне царкоўны хор пад кіраўніцтвам спадара Падгайскага вельмі прыгожа выканаў напісаную кампазітарам Міколам Равенскім на верш Наталлі Арсенневай малітву-песню "Магутны Божа"...

Падчас Божай службы за Беларусь і беларускі народ у царкве красаваўся бел-чырвона-белы сцяг, які трымалі Міхась Ціхан і Алесь Алехнік...

Афіцыйная акадэмія адбылася ў Беларускім Доме ў прыгарадзе Фэйрфільд і была адкрыта Міхасём Лужынскім, пасля чаго быў адспяваны беларускі нацыянальны гімн "Мы выйдзем шчыльнымі радамі"...

З вельмі цікавым дакладам-расказам выступіла Галя Базаленка. Яна паведаміла прысутным пра тыя гістарычныя падзеі, што адбываліся на Беларусі і асабліва ў Мінску, сведкай якіх яна была і якія давялі да паўторнага абвяшчэння суверэнітэту Беларусі 27-га ліпеня 1990 года. Міхась Лужынскі паінфармаваў прысутных аб прывітаннях, якія прыслалі беларускія арганізацыі з Беларусі і іншых краін свету, а Янка Гавенчык зачытаў надасланае архіпастырскае Пасланне Першага Ерарха Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы Мітрапаліта Мікалая.

Па заканчэнні афіцыйнай часткі пачаўся супольны і вельмі смачны абед, падгатаваны жаночым камітэтам у складзе Лізы Бакуновіч, Валі Спасывай, Ванды Марчэнка і Марты Юхневіч, які ў сяброўскай атмасферы працягнуўся да позняга вечара, калі ўдзельнікі раз'ехаліся дамоў, напоўненыя прыемнымі ўражаннямі ад святкавання ўгодкаў незалежнасці далёкай ад Аўстраліі, але роднай усім беларусам Маці-Беларусі!

**Алесь АЛЕХНІК.**

Аўстралія.

### У БЕЛАРУСАЎ АРГЕНЦІНЫ



**У далёкім аргенцінскім горадзе Абера жыве шмат нашых суайчыннікаў. Яны славяцца на ўсю Аргенціну не толькі сваёй працавітасцю і памяркоўнасцю, але і беражлівымі адносінамі да сваёй культуры і гісторыі.**

**Беларускую грамаду ў Абера, гэты асяродак не паказнога, а сапраўднага культурна-грамадскага жыцця, узначальвае Зянона Саўчук. І вельмі важна, што ў справах грамады прымаюць актыўны ўдзел не толькі людзі, старэйшыя векам, а і моладзь, якая цягнецца да лучнасці з радзімай бацькоў.**

**Кожную восень у гэтым горадзе на "Свята імігранта" збіраюцца з усёй краіны беларусы і ўкраінцы, рускія і палякі, каб абмеркаваць справы і планы, пабачыць сяброў, прыняць удзел у спаборніцтвах і конкурсах. І тут нашы браткі-беларусы вядуць рэй. Вось на гэтым здымку вы бачыце Алісію Жук -- віцэ-прынцэсу на "Свяце імігранта-93". Нашай прыгажуні ўручылі галоўны прыз у намінацыі "Лепшы нацыянальны строй".**

**Трэба дадаць, што гэты цудоўны строй пры садзеянні таварыства "Радзіма" сшылі рукадзельніцы Прамысловага мастацкага камбіната ў Мінску.**

**Віншуем пераможцу і майстроў з узнагародай!**

**Аляксандр ГРУДНЕНКА.**

# МОЙ БОЛЬ І МАЯ ЎЦЕХА

Добры дзень, паважаныя спадары з "Голасу Радзімы"!

Вялікае вам шчырае дзякуй за газету, якую я атрымліваю рэгулярна. Тут у Латвіі вельмі дарага ваша газета, мая родная беларуская мова, усё тое, што звязвае мяне з Радзімай-Беларуссю.

У думках я заўсёды там, на сваёй Радзіме. Мроіцца мая вёсачка Зарэчча на Віцебшчыне, рэчка Лучоса, якая працякае каля самай хаты. Зараз напэўна ўжо вясновая паводка. Як прыгожа там у гэты час!

Помніцца мне маё дзяцінства, дзядуля, які ў час зараджэння калгасаў быў першым старшынёй калгаса "Новае Зарэчча". Удзельнік грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў, ён быў паважаным чалавекам у вёсцы, мой дзядуля Леванцёнак Харытон. Бабуля мая Леванцёнак Ксенія ўсё сваё жыццё адпрацавала даяркай у роднай вёсцы. Цяжка было тады, даілі ўручную, усё рабілі самі даяркі -- ад даення кароў да раздачы корму. Але бабуля ніколі не скардзілася на свой лёс, заўсёды была добрай і вясёлай. Дзядулю і бабулю вельмі паважалі ў вёсцы.

Па сцяжынцы бабулі пайшла і іх дачка -- мая маці Багамольцава Вольга. Яна таксама ўсё жыццё адпрацавала даяркай. Зараз на пенсіі, выгадавала пяцёра дзяцей, якія разляцеліся ў розныя куткі былога Саюза.

Бацька мой Багамольцаў Васіль быў трактарыстам. Многа жыло людзей у маёй вёсцы. На маёй памяці было аж 60 двароў, многа моладзі, праўляліся вяселлі, святы, радаваліся жыццю, сваім поспехам, нараджэнню дзяцей.

Зараз у маёй вёсачцы жывуць адны старыя, стаіць усяго 15 хат, не стала ўжо маіх дзядулі і бабулі, не стала многіх, каго я добра ведаў, з кім я рос, а яны старыліся. Жывуць там яшчэ мае бацькі і родзічы, жыве там мая памяць, мой боль, мая ўцеха.

Часта слухаю па транзістары беларускае радыё, чытаю вашу газету, якую вельмі люблю, сустракаемся ў таварыстве беларусаў "Уздым". Зараз нам лягчэй, у нас у Даўгаўпілсе адкрылася консульства Рэспублікі Беларусь. Часта сустракаемся з генеральным консулам Анатолем Жаўтоўскім. Нядаўна я прыняў сваё роднае беларускае грамадзянства.

Вось і ўсё. Прывітанне вам, спадары землякі-беларусы, ад нас усіх з Латвіі, дзе мы жывём, працуем, думаем пра вас, сумуем па родных мясцінах, па роднай мове, культуры, па ўсім. Хутка Першамай, у Беларусі гэта свята працы, вось мы ўсе і віншуем вас з гэтым святам. Усяго вам добрага ў вашым жыцці.

На жаль, латышы адмянілі і Першае мая, і 8-е Сакавіка, і Дзень Перамогі. Зараз у іх свае святы, якія не радуюць нас, мігрантаў.

З павагай да ўсіх

**Васіль БАГАМОЛЬЦАЎ.**

Уладзімір КЛІШЭВІЧ

# ВАСІЛЬ КАЛІНА

### XXVII

Два тыдні кожну ноч цягалі
Бесперапынна на дапрос.
Мэдалі сьніліся, мэдалі...
Папераў куст уверх ня рос.
Дазнаўца сам са скуры лез,
Каб хоць які зрабіць прагрэс.
Растуць вышэй арэштаў хвалі.
Дасьледчыкаў барометр
чулы...
Пайшлі "кіты",
пайшлі "акулы" --
"Студэнтаў справу" адпіхалі.

### XXVIII

Энкавэдэ ад сну адвыкла:
Ня часта ж водзяцца "кіты".
Настаў, нарэшце,
"век Пэрыкла",
Забойстваў росквіт залаты.
Тут кожны справаю трасе,
Хіба ж заробіш на камсе!
Запахла лепшая прыманка,
Пайшлі пісьменьнікі, паэты...
Васіль па справе быў адпеты,
Бывай! бывай, "Амэрыканка"!

### XXIX

Апошні раз на дзверы глянуў,
Лягчэй зрабілася яму.
Жыльлё прызначылі
без пляну --
З агульнай камарай турму.
Там павярнуцца няма дзе,
Турма напоўненай гудзе.
Ланцуг замкнуўся
на народзе.
У камару аж не прабіцца,
Дзе можна дзесяць --
пхаюць трыццаць,
Ды сьпяць на доле і
ў праходзе.

### XXX

Твой дзень сягоньня --
ноч і сажа,
Ахвяр бязьвінная сямья.
Энкавэдэ заўжды прымажа
Якое-небудзь ім імя:
Шпіён, ці змоўца-тэрарыст,
Радзімы здраднік, ці фашыст.
Ня трэба сталінцам талантаў,
Да мэты цісьнуць без аглядкі --
Пад ногці -- цьвік, агню --
пад пяткі
І фабрыкуюць дывэрсантаў.

### XXXI

Васіль даведаўся адразу:
Сядзяць яго прафэсары,
Адзін прывезены з Каўказу,
Другі -- з далёкай Бухары.
Перадае турэмны сьвет
Аб тым, як скончыў Галадзед.
Ахвяры, бедныя ахвяры!
Пры допыце ён скочыў
зьверху
З вакна чацьвёртага
паверху,
Памёр ад мук на тратуары.

### XXXII

Чакала тое ж Чарвякова,
Ён чуў пра йголкі і агонь.
З адвагай цьвёрдаю,
бяз слова,
Цаляе куляю у скронь.
Як Чарвякова ўжо няма,
Дык жонцы й шофэру турма.
Круціўся вус Язэпа-сома...
Аж тры разы у хуткім часе
Арэштаў хваля пранясласе
Сакратароў усіх райкомаў.

### XXXIII

Турма людзкой
крывёй прамокла.
Над галавой, як ноч,
так дзень,
Вісіць сьмяротны меч
Дамокла,
Гуляе побач сьмерці цень.
Сядзіць прывязаны паэт,
А кат яму электрасьвет
Вялікай сілы даў у вочы...
То сьвет шыпшынаў,
то лілея...
Пад лямпай Гартны
вар'яцее,
Трагічна ён з людзей
рагоча...

### XXXIV

Паверхі трэцьці і чацьвёрты
У той час Менскае турмы
Служылі кузьняю кагорты,
А молат сьмерці чулі мы.
Крычэлі каты: "Гавары!"
Бух, Бух! -- каціліся згары.
"Ой, ой!" -- ляцела
ў цемень ночы.
Ніхто ў душы ня мог зацерці
Крывава-страшны
танец сьмерці --
Балюча-звонкі
крык жаночы.

### XXXV

Васіль падумаў:
"Той шчасьлівы,
З каго ня вышаў такі туз.
Адным піхаюць толькі
сьлівы,
Другім жа -- гэтакі гарбуз..."
Ня мог Васіль вушэй
заткнуць,
Каб гэтай болечы ня чуць.
Усё мацней крычаць
забойцы,
І дзень і ноч без перамены,
Працуе кузьня у
тры зьмены,
Таўкуць людзей
малатабойцы.

### XXXVI

Усе пыталі пра Андрэя,
На пальцах ног лічылі дні,
А той у башні дзесьці прэе,
Пячэцца, бедны, на вагні.
Прайшлі семнаццаць дзён,
як век,
А разам з імі -- дзікі зьдзек.
Глядзяць, у камару,
нарэшце,
Яго вядуць на дзьве гадзіны,
Каб паказаць
з жывога кпіны:
"Сябе вы, контрыкі,
пацешце".

### XXXVII

Андрэй ідзе, нібыта п'яны,
Пераступае ледзь парог.
На твар яго, ягоны раны
Глядзець тады ня
кожны мог.
Красуе мукаў жах. І вось...
Ужо згубіў
прытомнасьць хтось.
Андрэй трымаў
сябе бадзёра,
Глядзеў адважна сьмерці
ў вочы,
Яе жадаў, і сам ён крочыў
Згубіць мучэньняў сваіх гора.

### XXXVIII

Васіль наставіў сваё вуха --
Лавіць сьмяротных запавет.
Уважліва глядзеў і слухаў,
Што гаварыў жывы шкілет.
"Псюкі на лёгкі перакур
Мне паказалі першы тур.
Блісьнуць мне прыдзецца
ў зэніце,
Праз пекла вылезу да раю --
Пяць сутак роўна паўтараю:
-- Я дывэрсант,
шпіён, ўрэдзіцель!

### XXXIX

Выконваю сваю задачу,
Ці будуць вынікі, ці не,
На трэці дзень выразна бачу
Я чорных кошак на сьцяне.
Адсутнічае ўсякі рух,
Як бочка, я тады апух.
Я чую, як другіх малоцяць,
А мне сьпяваюць:
"Выкінь зброю,
Нам неахвота быць з табою
У няпрыемнасьцяў
балоце..."

### XL

Вы слухалі, цяпер глядзеце,
Як тур другі агню дае:
Рука расьпісана
ў суквецьце --
Цягнулі мускулы мае.
Яшчэ на мускуле рукі
Відаць ад пальцаў сінякі.
Я стаў актор вялікай ролі...
Павыбівалі ў роце зубы,
Парасьсякалі мае губы,
Пад ногці голкамі паролі.

### XLI

У дзьверы пальцы
закладалі,
За ногі вешалі ўгару,
Прызнаньні сілай выбівалі,
Здавалася, што я памру.
У Маркса -- "сьведамасьць --
быцьцё",
А тут, пасталінску -- біцьцё".
Блішчэлі косаў пасмы
ў срэбры,
Людзям казалі больш
за словы
На пальцах
чорныя падковы,
Знакі ад вешаньня
за рэбры.

### XLII

"Гарыць мой шлях
крывёю мора,
Яшчэ ня бачу берагоў.
Братва ня спыніцца так скора
Тварыць малюнкі для багоў.
Другі мне тур
прыносіць шанс
Паспрабаваць яшчэ "балянс".
Васіль зірнуў на
частку цела,
Дзе ўніз ад самай
паясьніцы,
Крывёй заліты нагавіцы --
Праз дзірку
месіва тырчэла.

### XLIII

"У табурэтцы гвозд забіты,
На гэты гвозьдзік і сядай.
Хвіліну толькі пасядзі ты --
Дык Богу душу аддавай.
Згубіў прытомнасьць.
Ты гатоў...
Як мёртвы падаеш далоў.
Прыемна жыць у
райскім садзе,
Забойцы сочаць за табою.
Хутчэй пакрапаюць вадою,
Ды зноў на той жа
гвозд пасадзяць.

### XLIV

Стральцоў на кол
калісь садзілі
Жывым для страху, напаказ.
Я б згоду даў у
кожнай хвілі
На кол садзіцца дзесяць раз.
Я ж на калу
дванаццаць дзён,
Канец мучэньням нявідзён.
Бубніць суседні
кат ахвочы,
Імя жанчыны ўспамінае,
Яе на допыце трымае
Дваццаць чатыры
дні і ночы.

### XLV

О, сьвет чароўны,
сэрцу мілы,
Пад сонцам
сталінскім жывём...
Мужчынам член,
жанчынам губы
Штодня падпекаюць агнём.
Кабеце той не на дабро
Між ног
прывязваюць вядро,
Наліта поўнае вадою.
Жанчына енчыць,
кроўю плача,
Пакуль ня зваліцца,
ўсё скача
Сьмяротна-стомленай
хадою.

### XLVI

Цяпер, з прыездам
Маленкова,
Стары заскача маладым.
Іголкі войстрацца нанова,
А паддаюць, аж
смыліць дым.
Я сам пад сілаю агню
Імя Дзяржынскага чарню".
Васіль пытаў сябе самога:
"Навошта гэтакія кпіны!"
Жывы чакаў хтось
дамавіны --
Наверсе бухкала падлога.

### XLVII

На трэці тур бяруць
Андрэя,
Разьлік нікчэмны на зварот.
Андрэй ідзе, Андрэй
ня млее,
Глядзіць геройскі напярод.
Памёр ад мукаў, ці ад куль,
Бо не зьвярнуўся
ён адтуль.
Васіль асуджаны. Калёсы
Нарком дарогаў
хутка мажа.
Пайшла "палітыка"
і "кража"
Разводзіць шум
мнагагалосны.

Заканчэнне..
Пачатак у №№ 13-16.

## ГАСТРОЛІ АНСАМБЛЯ "РАДАСЦЬ"



У дзесятках краін свету пабываў ансамбль Брэсцкага гарадскога Дома культуры "Радасць", у тым ліку тройчы -- у Францыі. Вось і мінулым летам аматары харэаграфіі гэтай краіны апладзіравалі самадзейным артыстам. У канцы мінулага года ў рэпетыцыйнай зале ансамбля пабывалі госці з французскага горада Брэста. Паглядзеўшы вясёлыя танцы "Радасці", яны запрасілі ансамбль на гастролі.

НА ЗДЫМКАХ: народны артыст рэспублікі Беларусь Анатоль ВАРАБ'ЁЎ (у цэнтры) з віцэ-мэрам французскага горада Брэста Ражэ ЛЕПРОАНАМ і Эдмонам МАНАНЖАМ у Брэсцкім гарадскім Доме культуры; танцуе "Радасць".



## НАД ПЕТРАПАЎЛАЎСКАЙ КРЭПАСЦЮ ПАПЛЫВЕ "БЕЛАРУСКІ ЗВОН"

З 1 па 9 мая ў Санкт-Пецярбургу ў рамках Другога Велікоднага музычнага фестывалю адбудзецца свята звонавага мастацтва "Званільны тыдзень".

Назва гэта не выпадковая. Яшчэ ў недалёкім мінулым яна была знаёмая ўсім: не працягу тыдня пасля святкавання Вялікадня кожны з жадаючых мог падняцца на званіцу храма і паспрабаваць сваё ўменне ў гэтым, цяпер паўзабытым відзе мастацтва.

У праграме свята -- агульны гарадскі звон, канцэрты званароў на лепшых званіцах Санкт-Пецярбурга і яго прыгарадаў, традыцыйныя велікодныя наведванні званіц для знаёмства са званамі і ігрой на іх.

Як паведамілі БелаПАН у Мінскім епархіяльным упраўленні, Беларуская праваслаўная царква таксама мае намер паслаць на фестываль сваіх майстроў-званароў. У ім з благаславення мітрапаліта Мінскага і Слуцкага, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі Філарэта прымуць удзел прадстаўнікі Саюза званароў Беларусі ў імя Свяціцеля Паўліна Міласцівага. Яны выступяць з музычнай кампазіцыяй "Беларускі звон" на званіцы сабора Петрапаўлаўскай крэпасці.

## ГОСЦЬ З ЗША

Зусім нядаўна Беларусь наведваў дырыжор Ніл Сталберг, і вось амаль следам -- славуты піяніст Джозэф Банавец. Ён набыў міжнародную вядомасць пасля ўдалага дэбюту, атрымаўшы першую прэмію Венскай вышэйшай музычнай школы. Адзін з ягоных шматлікіх запісаў на кампакт-дыску -- скерца і мазуркі Балакірава -- быў прызнаны крытыкай лепшым запісам 1987 года. Спадар Банавец -- прафесар Паўночнатэхаскага універсітэта -- нязменны член журы міжнародных конкурсаў піяністаў.

У Беларусь Дж. Банавец быў запрошаны для правядзення майстра-класаў у Акадэміі музыкі і канцэртнага выступлення, якое адбылося 27 сакавіка ў Вялікай зале філармоніі. Праграма, якую ў садружнасці з беларускім дырыжорам П. Вандзілоўскім прапанаваў маэстра, складалася з рускай, але рэдка выконваемай класікі: 1-я сімфонія і Капрычыо на цыганскія тэмы С. Рахманінава, Чацвёрты фартэпіянны канцэрт А. Рубінштэйна. Вытанчаны артыстызм, дасканаласць і глыбіня выканання Дж. Банавеца проста зачаравалі аўдыторыю. Асабліва прыемна, што атрымаўся цудоўны творчы тандэм, чуйнае ўзаемаразуменне паміж маэстра і сімфанічным аркестрам філармоніі, якім натхнёна кіраваў П. Вандзілоўскі.

## ПРАЦЭС НАЦЫЯНАЛЬНАГА АБУДЖЭННЯ

## СПЫНІЦЬ УЖО НЕМАГЧЫМА

# ДА ПЫТАНЬНЯЎ ФАРМАВАНЬНЯ БЕЛАРУСКАЙ НАВУКОВАЙ ТЭРМІНАЛЁГІІ

З ПАГЛЫБЛЕНЬНЕМ чалавецтвам свайго веданьня прыроднага асяродзьдзя й разьвіцьцём навукова-тэхнічнага прагрэсу ўзьнікла й нарастае неабходнасьць пошуку назоваў новым тэрмінам і паняцьцям. Крыніцай паступленьня іх былі й зьяўляюцца "мёртвыя" лацінская ды старагрэцкая, радзей ангельская ці іншая сучасная мовы краінаў-донараў навукова-тэхнічнай інфармацыі. У звычайных грамадзка-палітычных варунках, у нармальным моўным становішчы працэс "ужыўленьня" й адаптацыі іншародных лексемаў (новатвораў) ідзе заканамерна й паступова. На Беларусі разьвіцьцё нацыянальнай тэрміналёгіі ў 30-я гады па палітычных матывах разам з антырэформай мовы (1933 г.) фактычна спынілася. Папярэднія традыцыі й напрацоўкі, у прыватнасьці, Навукова-тэрміналягічнай камісіі, створанай у 1921 годзе пры Наркаме асьветы БССР, і затым Інстытуту беларускай культуры былі адрынутыя, шматлікія тэрмінаграфічныя працы здадзеныя ў спэцсховішчы як шкодныя, нацыяналістычныя і якія парушалі афіцыйна прынятыя правапісныя нормы.

1921-1932 гады былі сапраўды залатымі ў разьвіцьці беларускай навуковай тэрміналёгіі. Тэрмінатворчасьць і тэрмінаграфія ішлі поруч з нацыянальным адраджэньнем. Былі распрацаваныя праекты слоўнікаў бадай па ўсіх базавых галінах навукі, культуры й тэхнікі. Аднак у сталінскіх вярхох Савецкай імпэрыі палічылі, што нацыянальна-культурнае адраджэньне нерасейскіх народаў занадта далёка пайшло. І кампартыя павяла рашучы бой... Беларускі палігон збліжэньня й зьліцьця нацыяў і народаў аказаўся найбольш прыдатным. Выкарыстоўваючы асаблівую мэнтальнасьць народу, кайнава работа праводзілася тут надзвычай пасьпяхова й рашуча. Вось цытата зь пісьма першага сакратара ЦК КП(б) Беларусі П.Панамарэнкі І.Сталіну 21 лістапада 1938 г. N 978: "Начать (пока мы начали это делать робко) большую работу по очистке белорусского языка от всех насажденных полонизмов, искусственно придуманных и издевательских слов и терминов. Начать очищение от всего наносного, антинародного. Начать работу по исправлению грамматики. Результатом этой работы должно явиться создание белорусского словаря и стройной, не запутанной, вполне научной грамматики.

В этой работе необходимо опереться на лучшую часть Союза писателей, интеллигенции и партийные силы, а в основу положить действительно живую, правильную, не испорченную речь Белорусского народа, искореняя жаргонные слова и заменяя недостающие слова русскими или созвучными украинскими" ("ЛіМ", N 41, 1993).

Так, цынічна й бесьперашкодна наша мова русіфікавалася, бо тады ўжо супраціўляцца не было каму: беларуская творчая інтэлігенцыя Савецкай Беларусі да 2-й сусьветнай вайны была амаль поўнасьцяй рэпрэсавана. Пазьней тонкае кадравае сітаваньне мовазнаўцаў і тэрмінатворцаў не дапускала нацыянальна сьведамых спэцыялістых да адпаведнай працы. Афіцыйнае мовазнаўства было зьведзена ў рэчышча збліжэньня беларускай мовы з расейскай. Сфэра навуковага ўжытку мовы катастрафічна звузілася. Зьнікала й сама патрэба стварэньня нацыянальных тэрміналягічных слоўнікаў.

Зь сярэдзіны 60-х гадоў назіраецца некаторае ажыўленьне тэрмінаграфічнай справы. Зьявіліся на сьвет першы анамастычны слоўнік М.Судніка (1965), трохмоўны слоўнік батанічных тэрмінаў і намэнклятуры А.Кісялеўскага (1967), грамадзка-палітычнай тэрміналёгіі (1970) і іншыя, а таксама шэраг іншамоўна (пераважна лацінска)-расейскіх і расейскамоўных тлумачальных, якія задавальнялі патрэбы Беларусі як чыста правінцыйныя. Наш выдавецкі Менск, вядома, зьяўляўся маскоўскай філіяй.

Апошнія два дзесяцігодзьдзі былі больш плённымі. Гэта паказала рэтраспэктыўная выстава слоўнікавых выданьняў, ладжаная ў кастрычніку летась Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Значнае месца на ёй занялі тэрміналягічныя слоўнікі й мінімумы, выдадзеныя ў 1991--1993 гадох. Іх каля дваццаці. Яны -- вынік сёньняшняга абуджэньня тэрмінатворчага патэнцыялу, які высьпяваў у нетрах адукаванай і сьведамай беларускай інтэлігенцыі. Яшчэ большыя пляны выдавецтваў на бліжэйшыя гады. Спэцыяльных і галіновых слоўнікаў, даведнікаў мяркуецца выпусьціць за два (1994--1995) гады больш, чым за ўвесь 60-гадовы пэрыяд ад сумнавядомай рэформы беларускай мовы. Някепска. Радуе й тое, што дзяржава бярэ на сябе выдавецкія выдаткі, нягледзячы на эканамічныя цяжкасьці часу. За ўкладальнікамі слоўнікаў, даведнікаў -- якасьць зьместу. Тут ёсьць свае праблемы. Коратка прааналізуем стан рэчаў.

Сучаснае ўкладаньне беларускай навуковай тэрміналёгіі праводзіцца фактычна праз калькаваньне тэрмінаў, атрымаўшых ужытак у расейскай мове. Новая лексічная зьява трапляе да нас з мовы-крыніцы праз прызму правілаў і нормаў расейскай мовы й замацоўваецца матывацыямі яе носьбіта. Такі падыход, названы П.Садоўскім "сіндромам двумоўнай стылістыкі", нярэдка прыводзіць ня толькі да грубасьці перакладу, але й да сэнсавага абсурду (напрыклад, міжвузельны атам, няёмкаабцякальны). І тут ні пра якую нацыянальную тэрмінатворчасьць нельга казаць усе апошнія 60 гадоў, ні пра якія "абавязковыя этапы", каторыя мусіць прайсьці кожны тэрміналягічны наватвор, і на што несумленна спрабуюць акцэнтаваць увагу асобныя мовазнаўцы ("Навіны АНБ", N 49, 1993). На самай справе новыя навуковыя тэрміны ўласнабеларускага шляху ад нараджэньня да ўжытковага замацаваньня ня мелі, бо не было для гэтага субстрату: уся навука, тэхніка й народная гаспадарка, за выключэньнем хіба фальклёру, разьвіваліся на расейскім моўным груньце. Рэдкія беларускамоўныя выданьні, як, напрыклад, "Весці АН БССР" (зараз: "Весці АН Беларусі"), захоўваліся хутчэй для дэкарацыі й, каб быць зразумелымі зьнігілізаванаму чытачу-навукоўцу, друкаваліся на паўтрасянцы. Ва ўжываньні тэрмінаў і намэнклятуры капіяваліся мэтадалягічныя прынцыпы й крытэры, выпрацаваныя расейскай тэрмінаграфіяй. Замацаваныя ў беларускіх слоўніках і даведніках, яны станавіліся свайго роду нормай і выкарыстоўваліся лінгвістамі прывыдавецтвах для перакладу навуковых працаў. Пра захаваньне ўласьцівай у рознай ступені кожнай мове пурыстычнай тэндэнцыі -- імкненьня да абмежаваньня запазычаньняў і наданьня ім нацыянальнай адметнасьці -- у іх гаворкі няма. Хоць гэта імкненьне натуральнае. Яно асабліва ўласьцівае мовам заняволеных народаў у пэрыяд іх нацыянальна-культурнага адраджэньня.

У нармальных варунках нацыянальны тэрмінатворчы працэс мусіць балянсавацца, з аднаго боку, пурыстычнай, а з другога -- міжнароднай уніфікацыйнай тэндэнцыямі. На такой пазыцыі стаіць выдатны расейскі тэрміноляг Д.С.Лоттэ (1961). Зь яго меркаваньня, варта прытрымлівацца як цалкавай нацыяналізацыі (у прыватнасьці, русіфікацыі) тэрміналёгіі, гэтак і адаптаванага ўжываньня чужых словаў. Да скарбонкі тэрмінафонду трэба падбіраць толькі такія адзінкі міжнароднай тэрміналёгіі, якія навукова дакладнейшыя й карацейшыя за нацыянальныя.

Для беларускай мовы, дзе тэрмінатворчы працэс доўгі час практычна адсутнічаў, нацыяналізацыя навуковай тэрміналёгіі проста неабходная. Дзеля захаваньня беларускай мовы, па-першае, і дзеля дасягненьня вышэйзгаданага тэрмінатворчага балянсу таксама. Важнейшай крыніцай дасягненьня такога балянсу зьяўляюцца сёньня тэрміналягічныя зборы 20-х гадоў, а таксама 5-томны "Слоўнік беларускіх гаворак Паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча" (Менск, 1979--1986), "Беларуска-расійскі (Вялікалітоўска-расійскі) слоўнік Я.Станкевіча (Ню Ёрк, 1989), "Беларуска-ангельскі" і "Ангельска-беларускі" слоўнікі Я.Пятроўскага (Менск: Тэхналёгія, 1993) ды іншыя. У прыватнасьці, слоўнікі 20-х гадоў вабяць сваёй нацыянальнай тэрміналягічнай лексікай, удалай і зразумелай, хоць сёньня крыху нязвыклай, але не прыцягнутай штучна з чужога моўнага грунту.

Тэрміны грэцкага й лацінскага паходжаньняў для нашага карыстальніка без клясычнай асьветы былі й зараз ёсьць незразумелыя сымбалі. У 1924 г. украінскі тэрміноляг С.Рындык адзначаў, што нават няўдалы, але свой тэрмін лепшы паводлуг чужога, хоць бы з пагляду на ягоную з большага ўмоўнасьць, і да якога трэба прызвычайвацца. А таго лепш дасягнуць, калі тэрмін збудаваны з роднага кораню. Замежная тэрміналёгія "...ёсьць проста бажок, фэтыш, якому мы звыклі пакланяцца, надаўшы сьвятасьці, якой ён ня мае" ("Навуково-тэхнічне слово", N 1, 1993, с. 47).

Сучасная практыка адвольнага, бяздумнага запазычваньня й калькаваньня тэрмінаў, узьведзеная ў ранг нормаў, бэсьціць і да таго зьнявечаную мову. Прыкладаў безьліч. Ужываньне такіх словаў, як "прадастаўляць", "прадстаўляць", "прадстаяць" і іх вытворных аргумантавана прааналізаваў прафэсар Гарадзенскага дзяржунівэрсытэту П.Сьцяцко ("Наша слова", N 39, 1993). Парушаюць беларускі лексічны камфорт таксама "прэдзел", "чарцёж", "паскараць", "бруханогія", "таргі", "вадзіцель", "саіскальнік", "алюміній", "кіслата" ды іншыя тэрміны-русізмы, якія стракацяць у гэтак званых нарматыўных слоўнікавых выданьнях і падручніках.

Перапыненыя тэрмінатворчая й тэрмінаграфічная традыцыі беларускага "залатога дзесяцігодзьдзя" паступова адраджаюцца. Яны сёньня, нібы вясновыя парасткі дзьмухаўцу праз жорсткае асфальтавае пакрыцьцё, прабіваюцца да сонца, да жыцьця. Тыя, штучна навязаныя нам лексічныя й правапісныя нормы, як стары асфальт, ужо трэскаюцца. Пакуль без дзяржаўнай падтрымкі, саматужна зьяўляюцца на сьвет прататыпы навукова-тэрміналягічных зборнікаў 20-х гадоў. Да іх адносяцца "Кароткі расейска-беларускі фізіялягічны слоўнік" А.Стасевіча і С.Варыёцкага, "Расейска-беларускі хімічны слоўнік" (укладальнікі А.Глушко, А.Стасевіч, А.Бокун), "Кароткі расейска-беларускі вайсковы слоўнік" С.Судніка, выдадзеныя Менскай НВК "Тэхналёгія" ў 1993 годзе, і "Руска-беларуска-англійскі слоўнік па інфарматыцы і вылічальнай тэхніцы" М.Савіцкага (Менск: МП "Гаспад", 1992). Першыя два выкананы акрамя таго неподпарадкавана беларускім савецкім правапісным нарматывам, што выклікала непрызнаньне іх з боку афіцыйнага мовазнаўства. На мой погляд, гэта слоўнікі беларускага заўтра, бо яны падпарадкаваны натуральным правілам беларускай літаратурнай мовы як мовы генэтычна народнай.

Нефармальныя адносіны праявілі да тэрмінаграфіі іншыя сябры Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны. Але, ня з волі аўтараў, ілюстраваны слоўнік Г.Сяржанінай "Грыбы: Аскаміцэты, базідыяміцэты (гастэраміцэты, гетэрабазідыяміцэты")" (Мн: Навука і тэхніка, 1991), "Руска-беларускі слоўнік матэматычнай тэрміналогіі" В.Ахраменкі (Мн.: ратапрынт БДУ, 1991) і Т.Сухой і інш. "Тэрміналагічны слоўнік па вышэйшай матэматыцы для ВНУ" (Мн.: Навука і тэхніка, 1993) усё ж пастаўлены на рэйкі сучасных рэдакцыйных патрабаваньняў.

Нягледзячы на гэта, усіх укладальнікаў вышэйзгаданых слоўнікаў аб'ядноўвае гарачае й усьведамлёнае імкненьне захаваць самабытнасьць роднай мовы. Яны (аўтары) даказалі мажлівасьць мэтафарычнай намінацыі (выкарыстаньня побытавых словаў, дыялектнай лексікі) у розных галінах навукі й тэхнікі, а таксама, прытрымліваючыся агульнапрынятых правілаў адаптацыі запазычаньняў, захавалі беларускамоўную спэцыфіку, правапісную й граматычную будову лексемаў. Напрыклад, неўласьцівы нашай мове суфікс -ір- (-ыр-) пасьлядоўна адхіляецца (алгебрызаваць, апраксімаваць, квадраваць), а суфіксы -ім- (-ым-), -ем-, -юч- перадаюцца адным суфіксам -льн-: разьвязальная задача, выпрастальная лінія, нарастальная функцыя і г.д.

Застаецца неразьвязаным пытаньне з пазаправілавым выкарыстаньнем лацінскіх тэрмінаў з -іум, -ыум (калегіум, прэзідыум) і намэнклятуры (птыліум, цынклідыум). Здаецца, мэтазгодна было б падпарадкавацца калі не ўкраінскай (калегій, прэзыдый) ці таксама расейскай адносна намэнклятурных назоваў (птылій, цынклідый), дык уласнай практыцы пэрыядычнага друку: калегіюм, прэзыдыюм. Для біялягічнай намэнклятуры існуюць два варыянты: цынклідыюм і цынклід, птыліюм і птыль, сфагнум і сфагн, тамэнтгіпнум і тамэнтгіпн і г.д. Першародны, у дадзеным выпадку лацінскі, корань захоўвацца, што ўзгадняецца з правіламі міжнароднай стандартызацыі тэрміналёгіі. А беларускі правапіс тэрмінаў і назоваў надае нацыянальную афарбоўку.

Тэрміналягічная камісія ТБМ імя Ф.Скарыны ў сваёй дзейнасьці кіруецца менавіта імкненьнем да міжнародных тэрмінаграфічных стандартаў і адначасова да мабілізацыі ўласнабеларускіх тэрмінастваральных сродкаў. Наваствораны тэрмін, на наш погляд, абавязкова павінны вытрымаць наступныя патрабаваньні (крытэры адбору):

-- адпавядаць нацыянальным моўным асаблівасьцям;

-- быць кароткім і абгрунтаваным;

-- ня быць сугучным (ідэнтычным) намэнклятурнаму назову;

-- мець мінімальную колькасьць сінонімаў;

-- быць унівэрсальным па прызначэньні (прыдатным для навукі й практыкі адначасова).

Нацыянальная тэрмінатворчасьць вымагае ня толькі глыбокай кампэтэнцыі ў канкрэтнай галіне навукі й людзкой дзейнасьці, але й філязофскага думаньня, лёгікі, псыхалягічнай і мэтадалягічнай падрыхтоўкі і, безумоўна, нацыянальнай сьведамасьці. Пры наяўнасьці ўсіх названых патрабаваньняў, адпаведнасьці ім тэрмінатворац здольны на плённую працу. Рэалізаваць жа свой нутраны патэнцыял ён зможа ў адпаведных варунках. На жаль, сёньня фінансавае стымуляваньне з боку дзяржавы адсутнічае. Сама яна ледзьвеледзь зводзіць эканамічныя канцы з канцамі й захоўвае ўласны сувэрэнітэт.

Акрамя гэтага агрэсіўна актывізуюцца антыбеларускія настроі ў грамадстве. Нарадзілася й мусуецца думка пра няздольнасьць беларускай мовы (недастатковасьць яе лексікі) забясьпечыць сучасныя навукова-тэхнічныя патрэбы. У сапраўднасьці сутнасьць у іншым: па-першае, у элементарнай ляноце -- нежаданьні парушаць сваю адзіную, расейскамоўную ўтульнасьць, абцяжарваць сябе "какими-то мовами" і, па-другое, у палітыцы -- мэтанакіраваным супрацьдзеяньні беларускаму нацыянальнаму адраджэньню, адным з крокаў чаго зьяўляецца ганьбаваньне й дыскрыдытацыя мовы народу, які спрычыніўся сам да аднаўленьня гістарычнай справядлівасьці на сваёй спаконвечнай зямлі. Скажу: марная і ўзаемашкодная справа, "господа" кнігавыдаўцы зь Менскага "Эридана" й "народныя" асьветнікі зь Віцебску! Разумней заняць спрыяльную пазыцыю.

Працэс беларускага нацыянальнага абуджэньня пайшоў. Яго нельга спыніць. Пра гэта сьведчыць актыўнае ўзрастальнае спрычыненьне навукова-пэдагагічнай інтэлігенцыі да тэрмінатворчай і тэрмінаграфічнай працы, якая ініцыюецца, што характэрна, зьнізу. І шматлікія заяўкі на ўдзел у Першай нацыянальнай канфэрэнцыі "Праблемы беларускай навуковай тэрміналёгіі", якая адбудзецца 4--6 траўня сёлета, паступілі з усіх вышэйшых навучальных і шэрагу навуковых установаў Беларусі.

**Язэп СТАПАНОВІЧ,**
**старшыня тэрміналягічнай камісіі ТБМ імя Ф.Скарыны.**

**Ад рэдакцыі:** па просьбе аўтара захаваны пададзены правапіс.



Салісткі. Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.

# ЗБЕРАГЛА РОДНАЯ ЗЯМЕЛЬКА

Упершыню за 1000-гадовую гісторыю беларускага народа выдадзена энцыклапедыя "Археалогія і нумізматыка Беларусі". Гэтай падзеі была прысвечана вечарына, якая адбылася ў Доме літаратара і была арганізавана выдавецтвам "Беларуская Энцыклапедыя" і Саюзам пісьменнікаў. З'яўленне гэтай кніжкі, па словах аднаго з удзельнікаў вечарыны, можна параўнаць з нараджэннем першынца ў сям'і. І сапраўды, гэта вялікая радасць. Радасць трымаць у руках салідны маляўнічы фаліянт, дзе абагульнены плён працы вучоных за апошнія 250 гадоў.

У ім -- тая праўда пра нашу культуру і гісторыю, якую зберагла родная зямелька і супраць якой ужо ніхто нічога сказаць не зможа, не асмеліцца. А праўда гэтая -- у спрадвечным жыцці на гэтай зямлі нашага мужнага і прыгожага народа з яго трагічным і слаўным лёсам. Лёс свайго народа паўтарылі многія ягоныя сыны, у тым ліку і вучоныя-археолагі. Пра гэта ў сваім выступленні на вечарыне з болем у сэрцы гаварыў прафесар Георгій Штыхаў. Згадаўшы пра росквіт, які перажывала археалагічная навука ў 20-я гады нашага стагоддзя, ён назваў імёны вучоных, расстраляных падчас сталінскіх рэпрэсій па лжывых абвінавачаннях. Па сутнасці, у адзін дзень быў знішчаны цвет навукі, яе вядучыя археолагі. Адбылося гэта не на вайне, як нам даводзілі раней, а да яе. І сёння гэтую горкую праўду мы можам прачытаць у выдадзенай энцыклапедыі. На яе старонках змешчана 2 384 артыкулы, 419 з іх -- па нумізматыцы. У гэтых артыкулах зацікаўлены чытач знойдзе адказы на шматлікія пытанні, звязаныя з сівой мінуўшчынай. Шырока і даступна асвятляюцца ў энцыклапедыі ўсе археалагічныя культуры, якія існавалі на тэрыторыі Беларусі, усе тыпы археалагічных помнікаў. Упершыню прыводзяцца падрабязныя звесткі пра манеты і манетныя сістэмы.

На вечарыне гаварылася яшчэ пра два новыя выданні -- "Гісторыю Беларусі" Доўнара-Запольскага і першы том "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі". Выступілі вучоныя-гісторыкі: Міхась Біч, Міхась Касцюк, Павел Лойка, Сяргей Тарасаў і іншыя. У прыватнасці, Міхась Касцюк, дырэктар Інстытута гісторыі АН Беларусі, характарызаваў першы том энцыклапедыі як кнігу вельмі беларускую, дзе шэраг падзей пададзены па-новаму, дзе шмат артыкулаў, звязаных з нацыянальным рухам, шырока паказаны беларускія арганізацыі. Па выказванні галоўнага рэдактара выдавецтва Барыса Сачанкі, стваральнікі новых энцыклапедый упершыню паглядзелі на нашу краіну вачыма беларусаў. А мы, беларусы, удзячныя і выдаўцам, і часу, у які, нягледзячы на складаныя эканамічныя варункі, магчыма такое здзейсніць. Новыя кнігі спатоляць прагу, інтарэс грамадскасці да гісторыі свайго народа і будуць моцным падмуркам нашага Адраджэння.

Удзельнікаў вечарыны вітаў знакаміты фальклорны калектыў Беларускага універсітэта культуры "Валачобнікі". Гучалі старадаўнія беларускія песні, музыка.

Ірына ЛЯКСЕЕВА.




**Па просьбе кіраўнікоў і ўдзельнікаў фальклорных калектываў у чарговай рубрыцы друкуем тры лепшыя запісы песень, якія спяваюцца беларусамі ў час правядзення фестывалю -- на зялёныя святкі сёмага і восьмага тыдня пасля Вялікадня. Народ называе іх Сёмухай, Тройцай і Русальным тыднем. Піншчына, дзе 15 чэрвеня гэтага года пачнецца фальклорнае свята, вызначаецца сваім яшчэ матрыярхальным святам Куста. Ніжэй пададзеныя песні запісаны: траецкая -- ад фальклорнага калектыву з в. Сташаны і куставая -- ад сямейнага гурта Бондзічаў з в. Ганчары Пінскага раёна Берасцейшчыны, а русальная -- ад фальклорнага калектыву з в. Дзімамеркі Лоеўскага раёна Гомельшчыны. Шчыра просім усіх удзельнікаў фестывалю праспяваць гэтыя і ім падобныя вашы сёмушныя, траецкія, куставыя і русальныя песні адпаведна таму, што "дарагая лыжачка да абеду".**

**Чакаем вашых заявак і водгукаў**

**Васіль ЛІЦВІНКА і Уладзімір РАГОВІЧ.**

## ТРОЙЦА, ТРОЙЦА, СВЯТАЯ БАГАРОДЗІЦА




Тройца, тройца, святая багародзіца.
Пасею я жыта -- ды няхай зародзіцца.
Пасею я жыта, да пасею пшаніцу.
Зарадзі, Божа, да ўсякую пашніцу.
Тройца, тройца, зямля нараджаецца.
А дачка мамцы да ножак кланяецца.

А дачка мамцы да ножак кланяецца:
-- Дазволь, маці, дай да Куста хадзіці.
Прывялі Кусту да й да аднае хаты,
Трэба, трэба Кусту да піці-есці даці.
Трэба Кусту, трэба ўсякая выгода,
Трэба Кусту, трэба крынічная вада.

## ОЙ, МЫ БЫЛІ Ў ВЯЛІКАМУ ЛЕСЕ




Ой, мы былі ў вялікаму лесе,
Ізвілі Куста з зеляненькага клёну.
Прывялі мы Куста да й да
слаўнага двору,
Просімо пана выйсці з новага пакою.
-- Ой, дзень добры, да наш пане, да хаты,
Ці вяліш, пане, да нашай Кусце стаці.
Ці вяліш, пане, да нашай Кусце стаці,
Трэба ёй, трэба піці-есці даці.

У нашае Кусты ножанькі невялічкі,
Трэба ёй, трэба панчошкі-чаравічкі.
Выйдзі ж, пане, з новага пакою,
Вынесі, пане, хоць па залатому.
Мы ж табе, пане, Куста песні спявалі.
І здароўя ўсім вам на лета жадалі.
Няхай жыта на полі калышацца,
Няхай наша Куста ўсё лета весяліцца.
Няхай пшаніца на полі буяе,
Няхай наша Куста па ўсім свеце гуляе.

## ПРАВЯДУ РУСАЛКУ Ў ЖЫТА




Правяду русалку ў жыта,
Ой, рана-раненька, у жыта.
Там русалцы быці, там жыці,
Ой, рана-раненька, там жыці.
Правяду русалку да грушкі,
Ой, рана-раненька, да грушкі.
А сама вярнуся ў падушкі,
Ой, рана-раненька, ў падушкі.

Правяду русалку да бору,
Ой, рана-раненька, да бору.
А сама вярнуся дадому,
Ой, рана-раненька, дадому.
Правяду русалку ў шчыры бор,
Ой, рана-раненька, ў шчыры бор.
А сама вярнуся ў таткаў двор,
Ой, рана-раненька, ў таткаў двор.

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.



Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск".
Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку".
Тыраж 6 000 экз.
Індэкс 63854. Зак. 545.
Падпісана да друку 25. 4. 1994 г.